ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (140)
лістапад
2022 год

CATHOLICNEWS.BY




## У Віцебску адкрыецца выстава жывапісных твораў ксяндза Сяргея Сурыновіча

## Цудоўны медалік Маці Божай




# Пытанні святару:



✠ **Святар моцна крытыкуе людзей падчас казання. Як рэагаваць?**

*Адказвае кс. Аляксей Ляшко*

Стар. 11

✠ **Ці можа святар прамаўляць ад імя Касцёла?**

*Адказвае кс. канонік Віктар Місевіч*

Стар. 11

✠ **Чаму ў Касцёле афіцыйна змянілі тэкст малітвы “Ойча наш”?**

*Адказвае кс. Валерый Марціноўскі*

Стар. 14

## Што Вы думаеце пра духоўную вопратку святароў па-за святыняй?




– Я б хацеў, каб святары больш хадзілі ў сутанах ці габітах – 156 адказаў;

– Я думаю, што дастаткова, калі святар проста ходзіць у калараткы – 89 адказаў;

– Мне здаецца, што ксяндзу варта хадзіць у свецкай вопратцы (як усе людзі) – 11 адказаў;

– Мне ўсё роўна, абы чалавек быў добры – 90 адказаў.

Апытанне было праведзенае на сайце Catholicnews.by і ў сацсетках Вконтакте, Аднакласнікі і Facebook.

## Наш падпісны індэкс – 63783



**Кошт падпіскі**
**на месяц – 1,62 руб.**
**на 3 мес – 4,86 руб.**
**на 6 мес – 9,72 руб.**

Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”

# Папа Францішак: “Каталіцкія настаўнікі пакліканыя быць сведкамі веры”

**12 лістапада Папа прыняў на прыватнай аўдыенцыі ў Ватыкане дэлегатаў Сусветнага саюза каталіцкіх настаўнікаў, Генеральная Асамблея якога праходзіла ў гэтыя дні ў Рыме.**


Папа з дэлегатамі Сусветнага саюза каталіцкіх настаўнікаў

Звяртаючыся да гасцей, Святы Айцец адзначыў, што, нягледзячы на цяжкасці апошніх гадоў, Сусветны саюз “працягвае дзейнічаць у духу хрысціянскай веры і надзеі”, спадзеючыся на Бога і на падтрымку Касцёла. Непазбежнае абнаўленне арганізацыі, звязанае са зменай пакаленняў, патрабуе пазітыўнага стаўлення да рэальнасці, падкрэсліў Папа: кожная змена эпохі азначае новую місію.

Святы Айцец назваў каталіцкіх настаўнікаў “супрацоўнікамі Папы”, бо яго місія заключаецца менавіта ў тым, каб умацоўваць і падтрымліваць братоў і сясцёр у веры (Лк 22:32). На думку Пантыфіка, прысутнасць хрысціянскіх педагогаў у школьных супольнасцях жыццёва важная. Іх “стыль” таксама мае вырашальнае значэнне: хрысціянскія педагогі закліканыя быць адначасова і цалкам чалавечнымі, і цалкам хрысціянскімі. Яны павінны быць укаранёнымі ў свой час і культуру. Важна, каб на асабістым узроўні яны былі знаходлівымі, адкрытымі і здольнымі усталёўваць адносіны са студэнтамі, разумець іх найглыбейшыя патрэбы, пытанні, страхі і мары. Таксама важна, каб яны былі здольныя сведчыць – перш за ўсё сваім жыццём, але таксама і словамі, – што хрысціянская вера ахоплівае ўвесь чалавечы досвед, што яна нясе святло і праўду ва ўсе сферы існавання, нічога не выключаючы, не падразаючы крылы марам маладых людзей, не збядняючы іх памкненні. Для Касцёла выхаванне моладзі заўсёды было накіравана на цэласнае развіццё кожнай чалавечай асобы ва ўсіх яе вымярэннях, – падкрэсліў Святы Айцец.

Супрацоўнікі Сусветнага саюза каталіцкіх настаўнікаў, нагадаў Папа Францішак, павінны “падтрымліваць настаўнікаў усіх узростаў і ў любых умовах іх служэння”, каб тыя суправаджалі дзяцей з мудрасцю і павагай на шляхах міру і жыцця, адкрываючы ім ісціну, прыгажосць і дабро. Настаўнікі нясуць вялікую адказнасць перад дзецьмі, падлеткамі і моладдзю, могуць змяніць іх жыццё ў лепшы ці горшы бок. “Усе мы ведаем з асабістага досведу, як важна мець добрых настаўнікаў і мудрых выхавальнікаў у гады нашага станаўлення!” – сказаў Святы Айцец.

Шмат прафесій патрабуе пастаяннага развіцця, але прафесія выкладчыка ўнікальная таму, што мае справу не з аб’ектамі, а з суб’ектамі. Адукатары працуюць з чалавечымі істотамі, прычым на ранняй стадыі іх развіцця. Дзеці мяняюцца з году ў год, а часам і з месяца ў месяц. Больш за тое, звярнуў увагу Папа, моладзь аднаго пакалення адрозніваецца ад моладзі наступнага, таму педагогі павінны пастаянна абнаўляць метады працы і знаходзіць “эфектыўныя спосабы перадачы радасці пазнання і імкнення да ісціны, выкарыстоўваючы мовы і культурныя формы, прыдатныя для сучаснай моладзі”.

Святы Айцец заклікаў чальцоў Сусветнага саюза каталіцкіх настаўнікаў працягваць настаўнікаў-католікоў да ўдзелу ў Глабальным адукацыйным пакце, які “імкнецца паставіць у цэнтр увагі чалавека з яго годнасцю і прыгажосцю”.

Напрыканцы аўдыенцыі Папа ўдзяліў каталіцкім педагогам апостальскае бласлаўленне і даверыў Багародзіцы іх каштоўнае служэнне.

Сусветны саюз каталіцкіх настаўнікаў (WUCT) уяўляе сабой прафесійную сетку каталіцкіх выкладчыкаў, якія працуюць як непасрэдна ў каталіцкіх школах, так і ў міжканфесійных або свецкіх навучальных установах. Яго мэта – заахвочваць і матываваць настаўнікаў, каб яны цалкам усведамлялі сваю важную місію выхавальнікаў і сведкаў веры.


Падчас аўдыенцыі для студэнтаў і выкладчыкаў Інстытута тэалогіі кансэкраванага жыцця Claretianum

# “Касцёлу і свету неабходная прысутнасць кансэкраваных асобаў”

Папа Францішак асабіста павіншаваў калектыў Інстытута тэалогіі кансэкраванага жыцця Claretianum з 50-годдзем заснавання. 7 лістапада ў Ватыкане прайшла адмысловая аўдыенцыя.

Касцёлу і свету неабходная прысутнасць кансэкраваных асобаў, перакананы Папа. Патрэбны іх досвед камуніі, выбар на карысць бедных, салідарнасць, братэрства без межаў і місіянерства. Калі падыходзіць з такім настроем, “дар кансэкраванага жыцця і яго місія ў Касцёле і ў свеце будуць мець большую вагу”.

“Сённяшняе кансэкраванае жыццё не можа быць знясіленае недахопам пакліканняў або старэннем. Тыя, хто дазваляе сабе песімізм, адмаўляюцца ад веры. Чым больш мы падыходзім да манаскага жыцця праз слова Божае і гісторыю і творчасць заснавальнікаў, тым больш мы здольныя жыць будучыняй з надзеяй. Ёсць тыя, хто занадта шмат засяроджваецца на знешнім (структуры, дзейнасці...) і губляе з-пад увагі звышбагацце ласкі, якая існуе ў людзях і супольнасцях”, – звярнуў увагу Папа Францішак.

Святы Айцец пажадаў даследчыкам манаства “старанна клапаціцца пра супольнае жыццё, жыць міжкультурнасцю як падарожжам братэрства і місіі, спрыяць сустрэчы паміж рознымі пакаленнямі ў кансэкраваным жыцці, у Касцёле і ў грамадстве”.

“Евангелле вучыць, што ёсць беднасць, якая зневажае і забівае, і іншая беднасць, беднасць Езуса, которая вызваляе і робіць нас шчаслівымі. Як кансэкраваныя асобы вы атрымалі велізарны дар удзелу ў беднасці Езуса. Не забывайце ні ў сваім жыцці, ні падчас працы ва ўніверсітэце пра тых, хто жыве ў іншай беднасці. Каб жыццё перамагло смерць, а годнасць перамагла несправядлівасць”, – заклікаў Пантыфік студэнтаў і выкладчыкаў Інстытута тэалогіі кансэкраванага жыцця Claretianum.

# У Рыме адкрыюць для публікі месца першай у гісторыі парафіі

**У сутарэннях рымскай базілікі святога Марка на Капітоліі раскапалі раннехрысціянскае месца, якое эксперты лічаць “першай у гісторыі парафіяй”.**

Папа Марк пабудаваў першую базіліку на гэтым месцы пры імператару Канстанціну ў 336 годзе. Як патлумачыў у інтэрв’ю пробашч касцёла ксёндз Рэнца Джуліяна, эксперт па старажытным мастацтве, у той час у Вечным горадзе ўжо існавалі базілікі святога Пятра ў Ватыкане і святога Яна на Латэране, але менавіта названая вышэй святыня была задумана як парафія. Гэта пацверджана раскопкамі, якія выявілі водную купель у незвычайнай форме крыжа.

Базіліка была знакам увагі да вернікаў, якія жылі на ўскраіне імператарскага форумаў. У той час гэта была густанаселеная язычнікамі і габрэямі частка горада, у якой пражывала 45 тысяч жыхароў. Раён apud palacina, дзе месціцца храм, захоўвае памяць пра святога Марка. Непадалёку знаходзяцца рэшткі дома, у каторым збіраліся першыя хрысціяне, каб паслухаць яго, а таксама святога Пятра, якія разам прыйшлі ў гэтую вялікую метраполію.

У IX стагоддзі над старажытным касцёлам надбудавалі новую базіліку. Гэта адбылося ў пантыфікат Рыгора IV (827-844 гг.). Пазней, у часы Паўла II (1464-1470 гг.), яна была адноўленая і ўпрыгожаная мазаікай. У XVII і XVIII стагоддзях былі дададзеныя ўпрыгожанні ў стылі барока, выкананыя падчас рэстаўрацыі.

Каб напісаць новую гісторыю базілікі святога Марка, спатрэбіліся тры кампаніі раскопак. Ніжняя базіліка, самая старажытная, была знойдзена падчас рамонтных работ, што праводзіліся ў 1947-1949-ых і ў пачатку 50-х гадоў. Пасля гэтага ў перыяд з 1988 па 1990 гг арганізавалі яшчэ адны раскопкі. Урэшце, у студзені 2022 года былі распачатыя рэстаўрацыйныя работы, якія завяршыліся ў ліпені.

Чакаецца, што месца, якое мае вялікае значэнне для гісторыі хрысціянства, адкрыецца для публікі праз некалькі тыдняў. Каб пабачыць яго, трэба будзе спусціцца ў сутарэнні.


Раннехрысціянская базіліка св. Марка

# Ватыкан арганізаваў бясплатны медыцынскі агляд для бедных

**“Бедныя з’яўляюцца часткай нашай сучаснасці”, – адзначыў арцыбіскуп Рына Фізікела перад адзначэннем у нядзелю, 13 лістапада, Сусветнага дня бедных.**

Прарэфект Дыкастэрыі па евангелізацыі распавёў пра розныя ініцыятывы, запланаваныя на гэты час у Рыме і ва ўсім свеце.

У Вечным горадзе людзі, якія жывуць у нястачы, мелі магчымасць скарыстацца бясплатным медыцынскім аглядам у мабільнай клініцы на плошчы святога Пятра. Атрымалі таксама адмысловую падтрымку многія сем’і. Ужо традыцыйна ў нядзелю ў Ватыкане арганізуюць абед для бедных.

Як адзначыў арцыбіскуп Фізікела, такія ж і іншыя ініцыятывы ўсё часцей рэалізуюцца ў шматлікіх дыяцэзіях у свеце, што робіць Сусветны дзень бедных пэўным пунктам адліку для супольнасці вернікаў. Ён звярнуў увагу на тое, што на ўсе праекты гэтага года налажыла адбітак сітуацыя ва Украіне.

“Не будзем забывацца, што ў бедных няма межаў: у бедных твары пазначаныя беднасцю, а не нацыянальнасцю”, – падкрэсліў ватыканскі іерарх. Ён заклікаў быць салідарнымі з украінскімі ўцекачамі і адмовіцца ад эгаізму, хоць усе “на сабе адчуваюць наступствы вайны”.



Медпункт на плошчы святога Пятра. Ілюстрацыйнае фота

*По матэрыялах старонкі беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Па старонках старых газет: асвячэнне капліцы на Копцеўцы і гімназіі ў Глыбокім

**Старыя газеты захавалі на сваіх старонках цікавыя звесткі пра падзеі рэлігійнага і грамадскага жыцця. Сёння мы зазірнём у іх, каб даведацца, што адбывалася ў Глыбокім 90 гадоў таму – восенню 1932-га.**

■ **Кастусь Шыталь**, *краязнаўца*

У кастрычніку 1932 года была асвечаная пасля грунтоўнага рамонту капліца на могілках Копцеўка. Гэтая капліца мела перад тым ужо доўгую гісторыю. Святыню пабудавалі ў 1804 годзе айцы-кармеліты, у якіх былі ў Глыбокім кляштар і вялікі прыгожы касцёл, каторы цяпер з'яўляецца праваслаўным саборам. 11 мая 1805 года капліцу асвяціў біскуп мінскі Якуб Ігнацы Дэдэрка. Падобна, што будаўніцтва капліцы больш-менш супадае з заснаваннем могілак на Копцеўцы. На працягу некалькіх стагоддзяў існавала практыка хаваць памерлых каля касцёлаў ці цэркваў. Толькі ў апошнія дзесяцігоддзі XVIII стагоддзя, пры самым канцы існавання Рэчы Паспалітай, стала пашыранай традыцыя закладання могілак па-за межамі паселішчаў. Пагорак Копцеўка быў тады акурат па-за межамі Глыбокага.

Першапачаткова капліца на Копцеўцы мела тытул у гонар святога Ілы. Не дзіўна, што яна насіла менавіта такі тытул, бо кармеліты вядуць сваю гісторыю з гары Кармэль у Палесціне, дзе ў IX стагоддзі некаторы час жыў як пустэльнік святы прарок Ілья.

Капліцу пабудавалі ў стылі класіцызму, бо эпоха барока, на якую прыпала ўзвядзенне кармеліцкага і парафіяльнага касцёлаў у Глыбокім, грэка-каталіцкай царквы ў Беразвеччы, касцёла ў Удзеле, ужо прайшла. На Глыбоччыне ў стылі класіцызму, што пераймаў традыцыі антычнай архітэктуры, быў збудаваны ў 1792 годзе касцёл у Мосары, а крыху пазней – касцёл у вёсцы Мамаі (цяпер царква).

Капліцу на Копцеўцы кармеліты называлі "sanktuarium pasyjne" – гэта значыць, святыні, якая прысвечаная ўшанаванню пакутаў Хрыста. На сценах былі намаляваныя фрэскі з выявамі стацый Крыжовага шляху, а ў інтэр'еры капліцы была драўляная фігура Езуса ў цярновай кароне, каторая лічылася цудадзейнай. Цяпер гэтая фігура знаходзіцца ў капліцы касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім. Верагодна, падчас Вялікага посту там мелі адбывацца жалобныя набажэнствы.

Пасля паразы паўстання 1863 года ўлады Расійскай Імперыі сталі забіраць святыні ў католікаў. Забралі і капліцу на Копцеўцы, у 1865 годзе пераасвяцілі яе ў царкву. У капліцы быў збудаваны драўляны іканастас. Два абразы, што знаходзіліся ў тым іканастасе, цяпер вісяць у саборы Нараджэння Маці Божай у Глыбокім паабапал уваходных дзвярэй. Яны маюць у сабе рысы беларускага барока і паходзяць, падобна, з нейкай зачыненай грэка-каталіцкай царквы або капліцы.

У 1921 годзе, калі Глыбокае трапіла ў склад Польскай Рэспублікі, новыя ўлады вярнулі капліцу на Копцеўцы католікам. Каля дзесяці гадоў яна стаяла закінутай, а віленскія газеты публікавалі допісы глыбачанаў, каторыя шкадавалі, што капліца можа разбурыцца, а каштоўныя фрэскі могуць пацярпець ад вады, бо яна трапляе ў будынак. Нарэшце ў 1932 годзе дайшла чарга да рэстаўрацыі гэтай капліцы і яе ўрачыстага асвячэння.

Газета "Dziennik Wileński" ў нумары 268 за 26 кастрычніка 1932 года апублікавала матэрыял, падпісаны крыптонімам X. Y:

*"Павятовае мястэчка Глыбокае, якое ляжыць на ўсходніх рубяжах Рэспублікі, непадалёк ад савецкай мяжы, было ў днях ад 21 да 23 [кастрычніка – заўв. аўт.] сведкам многіх урачыстых хвілінаў. З ініцыятывы мясцовага пробашча кс. Антонія Зянкевіча адбыліся трохдзённыя рэкалекцыі-місіі для глыбоцкіх парафіян. Духоўныя практыкаванні праводзіў адмыслова прыбылы з Вільні кс. канонік Караль Любянец. Вернікаў было шмат, нягледзячы на тое, што ў гэтыя дні ішоў моцны дождж. Рэкалекцыі скончыліся ў нядзелю, 23 чысла. Непасрэдна пасля заканчэння рэкалекцый раніцай у нядзелю адбылася іншая – вельмі ўзнёслая ўрачыстасць. А 10-й гадзіне раніцы пры спрыяльным надвор'і вырушыла на могілкі ўрачыстая працэсія, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі ўладаў на чале са старастам Стэфанусам, палкоўнікам Шышка-Богушам, шматлікія грамадскія арганізацыі, як Таварыства польскай моладзі, скаўты, а таксама школы, гімназія і натоўпы вернікаў. На могілках адбылося асвячэнне капліцы, якое здзейсніў кс. канонік Караль Любянец. Выступіў ён таксама з прамовай, прадстаўляючы рэлігійны ўціск, які глыбоцкая зямля прайшла ў часах падзелаў. Трэба адзначыць, што войска дапамагло ўпарадкаваць могілкі і вельмі спрычынілася да рэстаўрацыі капліцы.*

*Гэтая ўрачыстасць прайшла вельмі прыгожа і, несумненна, надоўга застанецца ў памяці ўсіх, хто быў яе сведкам".*

Цяпер капліца знаходзіцца ў такім жа стане, як і сто гадоў таму: пакінутая, недагледжаная. Можа, яшчэ прыйдзе час на яе новую рэстаўрацыю і ўрачыстае асвячэнне?

У тыя ж дні кастрычніка 1932 года з удзелам кс. каноніка Караля Любянца ў Глыбокім адбылася яшчэ адна ўрачыстасць, пра якую паведаміў "Dziennik Wileński" ў нумары 269 за 27 кастрычніка:

*"У дзень 22 бягучага месяца ў Глыбокім адбылася ўрачыстасць асвячэння гімназіі імя Люблінскай уніі, якая ўтрымліваецца таварыствам "Асвета". Акт пасвячэння выканаў кс. прапат Караль Любянец з Вільні ў прысутнасці шматлікіх прадстаўнікоў глыбоцкага грамадзянства на чале са старастам Стэфанусам і кс. дэканам Зянкевічам. Пасля пасвячэння кс. пралат Любянец выступіў з узнёслай прамовай. Ён падкрэсліў заслугі як мясцовага глыбоцкага грамадзянства, так і глыбоцкіх старастаў: цяперашняга – Стэфануса – і мінулага – Ежы дэ Трамэкура. Падкрэсліў ён таксама заслугі прафесараў гімназіі, якія, не шкадуючы высілкаў і працы, імкнуліся да ўздыму рэлігійнага і культурнага жыцця ў Глыбокім".*

Пра гісторыю гімназіі імя Люблінскай уніі ў Глыбокім варта сказаць тое, што яна была заснаваная ў 1926 годзе мясцовымі грамадзянамі, якія хацелі, каб іх дзеці маглі атрымліваць сярэднюю адукацыю. У 1932 годзе пабудавалі прасторны глінабітны будынак гімназіі на месцы цяперашняй 1-й школы. У праграме гімназіі, як і ва ўсіх школах міжваеннай Польшчы, адным з прадметаў была рэлігія. У 30-я гады заняткі вёў катэхет кс. Казімір Мірыноўскі. Дзейнічала пры гімназіі і каталіцкае вучнёўскае таварыства – Марыянская Садаліцыя, да якой належаў 81 вучань. Дзве дружыны скаўтаў аб'ядноўвалі 52 вучняў. У 1930-1932 гг вучні гімназіі выдавалі часопіс "Ziemia Dziśnieńska".

З пачаткам у 1939 годзе II Сусветнай вайны для гімназістаў настаслі цяжкія часы: напрыклад, толькі ў адным з класаў з 26 вучняў 12 сталі ахвярамі камуністычнага і нацысцкага рэжымаў, з іх сямёра страцілі жыццё. Дырэктара гімназіі Леона Ваякевіча 7 студзеня 1940 года арыштавалі камуністы, яму прысудзілі 10 гадоў лагераў. У жніўні 1941 г., пасля падпісання пакта Сікорскі-Майскі, ён быў вызвалены, аднак памёр на выгнанні ў лістападзе 1941 года.

Двухпавярховы будынак ліцэя, які ў 1937 годзе быў дабудаваны да гімназіі і захаваўся да нашага часу, летам 1942 года стаў месцам трагедыі. 27-29 чэрвеня 1942 года ў Глыбокім і ваколіцах паліцыя і гестапа правялі масавыя арышты польскай інтэлігенцыі і святароў. Паміж іншымі, былі арыштаваныя кс. Рамуальд Дроніч у Ваўкалаце, кс. Баляслаў Мацяеўскі ў Паставах, кс. Адам Масюляніс у Лужках, кс. Антоні Скурко ў Варапаеве, кс. Уладыслаў Вячорак у Параф'янаве. Вязняў трымалі некалькі дзён у будынку былога ліцэя, а 4 ліпеня перавезлі на грузавых аўтамабілях у трагічна вядомы лес Барок і расстралялі. У памяць пра забітых у Барку стаіць крыж з абразом Маці Божай Вастрабрамскай. Было б добра, каб хтосьці – можа, дзяржаўныя ўлады, якія адзначаюць Год гістарычнай памяці, – паставілі мемарыяльную шыльду і на тым месцы, дзе былі зняволеныя заслужаныя для грамадства людзі.

Загінуў ад рук нацыстаў і кс. Караль Любянец, які асвячаў капліцу і гімназію ў Глыбокім. Падчас Другой сусветнай вайны ён быў пробашчам у вёсцы Плябань, што каля чыгункі Маладзечна – Мінск. Немцы арыштавалі яго і завезлі ў турму ў Вілейцы. Расстралялі, па адных звестках – 22 ліпеня, а па іншых – 28 верасня 1942 года. Месца яго пахавання невядомае.

Катэхет гімназіі кс. Казімір Мірыноўскі перажыў вайну, пасля выехаў у Польшчу і быў канцлерам дыяцэзіяльнай курыі ў Гданьску. У 1947 годзе выдаў кнігу пра гісторыю катэдральнага касцёла ў гданьскім прадмесці Аліва. Памёр у 1977 годзе.


**Ксёндз Караль Любянец**


**Капліца да рэстаўрацыі, 20-я гады XX стагоддзя.**
*Фота: Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў*


**Інтэр'ер капліцы ў час, калі ёй валодалі праваслаўныя. Абразы, якія паабапал Царскіх варот, цяпер знаходзяцца ў праваслаўным саборы ў Глыбокім.**



**Фрагменты фрэсак у капліцы на Копцеўцы, 20-я гады XX стагоддзя.**

*Кс. Аляксандр Жарнасек, MIC*

# Старыя і новыя мяхі

***Частка першая***

**Каментар да прыпавесці пра мяхі**

Яны сказалі Яму: "Вучні Янавы часта посцяць і моляцца, падобна і вучні фарысеяў, а Твае ядуць і п'юць". Езус адказаў ім: "Ці можаце прымусіць гасцей на вяселлі пасціць, калі з імі жаніх? Але прыйдуць дні, калі будзе забраны ад іх жаніх, тады будуць пасціць у тыя дні". І расказаў ім прыпавесць: "Ніхто не разрывае новай вопраткі, каб прышыць лату да старой вопраткі. Інакш і новая парвецца, і да старой не падыдзе лата ад новай. І ніхто не налівае маладое віно ў старыя мяхі. Інакш маладое віно парве мяхі і само выцячэ, і мяхі прападуць. Але маладое віно трэба наліваць у новыя мяхі. І ніхто, выпіўшы старога, не хоча маладога, бо кажа: "Старое лепшае!"" (Лк 5,33-39).

Найперш запрашаю паглядзець на вучэнне Хрыстова не як на навучанне пра пост – пасціцца, ці не, а каб мы паспрабавалі ўспрыняць яго значна глыбей. Вучні Яна Хрысціцеля, якія выхаваліся ў цені законаў Старога Запавету, падобна як і фарысеі, не могуць так лёгка прыняць свабоды, каторую нясе Хрыстос. Шчыра кажучы, і хрысціянам гэтую свабоду часам цяжка прымаць. Апостал Павел піша, што свабода не вядзе нас да анархіі, да разбэшчанасці. Значыць, хрысціяне таксама яе не разумелі. Мы таксама вельмі часта, як той маятнік знаходзімся паміж мёртвым кансерватызмам, зборам правілаў і рэлігійным фармалізмам – з аднаго боку, і ліберальнай усёдазволенасцю – з другога. Нехта трапна заўважыў, што вядомае выказванне св. Аўгусціна "любі і рабі, што хочаш" лепш не згадваць, бо яго ўсё роўна не правільна зразумеюць.

У прыпавесці пра мяхі Езус нагадвае пра сэнс малітвы і паста тады, калі апосталы будуць пазбаўленыя бачнай прысутнасці Божага Сына. Тады свет гэтак моцна пачне ціснуць на іх, што не будзе ратунку і не будзе побач Езуса, за Якім можна было раней схавацца. Вось тады трэба будзе і пасціцца, і маліцца, каб супрацьстаяць гэтаму свету.

Езус, калі пасылаў на першае заданне вучняў па двое, дазволіў ім хоць бы крыху адчуць, як яно ёсць, калі Яго няма побач. Тады вучні вярнуліся з задання і пачалі скардзіцца, што злы дух іх не слухаў. Езус сказаў ім, што духа трэба выганяць пастом і малітвай. Гэта быў мінімальны вопыт служэння, калі Езуса фізічна не было побач (Мк 9,28-29). Многія пры першых цяжкасцях, выпрабаваннях, спакусах або пачуцці пакінутасці Богам адразу расчароўваюцца і здаюцца. Такім чынам, сёння чалавек часта зусім не здольны да змагання і барацьбы. Як толькі гэтая тэма пачынае недзе з'яўляцца, чалавек адразу здаецца і шукае таго, хто зможа вырашыць праблему замест яго: хто за яго памоліцца, хто дасць адказы на ўсе пытанні.

Святы Ігнацы Лаёла раіў, каб у хвіліны асаблівых выпрабаванняў ці спакусаў быць больш пільнымі ў малітве. Гэта значыць, што больш маліцца і пасціцца нам трэба не тады, калі ў нас усё добра атрымліваецца, а тады, калі адчуваем, што Езус нібы пакінуў нас на гэты час, і таму нам трэба больш праявіць стараннасці.

Менавіта такая сувязь прыпавесці пра мяхі і віно з пастом. Але паспрабуем паглядзець на гэту прыпавесць глыбей. Вельмі важна зразумець, што сімвалізуюць старыя мяхі, што хаваецца за гэтым вобразам?

**а) Фарысеі і рэлігійны фармалізм**

Прыпавесць пра старыя мяхі і новае віно мы часта разумеем як папрок фарысеям, або вучням Яна Хрысціцеля, якія задаюць гэтае пытанне. З аднаго боку, так яно і выглядае. Магчыма, тыя, хто пытаецца, перажываюць за распаўсюджванне лібералізму, за разлад дысцыпліны. Божыя людзі шмат моляцца і посцяцца, а вучні Езуса нават не адчуваюць гэтага цяжару, не выконваюць духоўных правілаў. За гэтымі разважаннямі і пытаннямі хаваецца не столькі клопат пра Божыя справы, колькі фармалізм: ёсць правіла і яго ўсе павінны выконваць!

У гэтым фармалізме многія з нас могуць убачыць сябе. Не было выразнага наказу ў Законе Майсея, колькі вернікі трэба пасціцца. Ішла гаворка пра больш радыкальную пабожнасць нейкай групы людзей (вучні Яна). Ім здавалася, што так павінна быць у жыцці кожнага верніка. Як жа проста ў гэтым усім можна знайсці сябе!

У нашай марыянскай семінарыі была практыка штодзённай гадзіны Адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту для ахвотных. Аднойчы адзін святар на казанні заўважыў, што калі мы дзелім клерыкаў на лепшых і горшых у залежнасці ад таго, прыйшлі яны на Адарацыю ці не, то мы становімся падобнымі да тых, хто кажа: а чаму Твае вучні не посцяцца, як іншыя? Гэтае пытанне вельмі часта гучыць з нашых вуснаў: чаму ты не молішся Пампейскую навэнну, чаму не паехаў на "Вінаграднік", чаму штодзённа не ходзіш на святую Імшу, чаму не ходзіш на сустрэчу малітоўнай групкі, не ходзіш у пілігрымкі, чаму прымаеш Святую Камунію стоячы, чаму не кленчыш на малітве, як іншыя, і гд. Заўважце, што ў гэтых пытаннях няма гаворкі пра адносіны з Богам, а толькі пра рэлігійныя практыкі. Можа быць, што ў чалавека больш глыбокія адносіны з Богам, чым у нас, але нас цікавяць практыкі.

Даючы адказ, Езус паказвае, што з такім фармальным падыходам мы не можам прыняць навізны Божага Валадарства, не прымем таго новага паевы, які прынёс Хрыстос.

> **Такім чынам, стары мех – гэта рэлігійны фармалізм, гэта практыка для "птушачкі", для традыцыі, для групы вернікаў.**

Паглядзіце, як яго шмат – гэтага фармалізму! Калі нехта ахрышчаны, пашлюбаваны аддаў дзяцей на катэхэзу, часта спавядаецца і ходзіць на нядзельную святую Імшу, а нават актыўны ў парафіі – пра што гэта нам гаворыць? Пра тое, што гэты чалавек вельмі моцна любіць Бога? Што ён – Яго верны вучань? Жыццё паказвае, што ўсё гэта можа быць толькі рэлігійнай фармальнасцю.

Самаранка, якая мела ажно пяць мужоў, яўна не змяшчалася ў межах каталіцкай "правільнасці", а аказалася, што яна была адкрытая на тую новую навіну, якую прынёс Хрыстос. І яна адразу ж стала місіянеркай, бо пабегла распавядаць пра Хрыста. Таму не будзем здзіўляцца з таго, што часам людзі, якія жывуць не ў шлюбе, хто не можа спавядацца і не прымае Святую Камунію, могуць аказацца больш Божымі, чым мы. Не выпадкова Езус кажа фарысеям, што мытнікі і блудніцы апярэдзяць іх на шляху ў Божае Валадарства.

Я не апраўдваю людскіх грахоў, але хачу паказаць небяспеку рэлігійнага фармалізму. Часам, калі людзі пытаюцца, як яны дакладна павінны тое альбо іншае рабіць, я з вялікай асцярожнасцю даю адказ, таму што магу вельмі лёгка накіраваць людзей на шлях фармалізму – на кожную сітуацыю свой канон. А гэты шлях можа адводзіць ад нечага вельмі важнага, ад кіравання Святога Духа, Каторы часам вучыць нас, здавалася б, у той самай або падобнай сітуацыі паступаць па-рознаму, інакш.

Калі нараджаецца фармалізм? Ён нараджаецца з рэлігійных правілаў і законаў. Закон і любыя правілы выконваюць ролю выхаваўцы. Мы даём дзецям шмат правілаў, забараняем ім або дазваляем штосьці для таго, каб пасля чалавек навучыўся самастойна прымаць рашэнні, рабіць крок далей. Таму Бог дае законы праз Майсея, але праз нейкі час павінен адбыцца наступны крок ужо сталага чалавека ў веры. Калі чалавек толькі прыходзіць да веры, мы вучым яго многім правілам. Цяжка чакаць ад такога неафіта духоўнай сталасці. Правілы выконваюць сваю ролю, але да нейкага часу. Калі ж росту веры і адносінаў з Богам не адбываецца, то правілы, што некалі былі праяўленнем жывой веры, пачынаюць станавіцца невыноснай фармальнасцю. У выніку мучаецца і сам чалавек, і людзі вакол яго.



**б) Вучні Хрыста як старыя мяхі**

Найчасцей нам хочацца сказаць, што пад вобразам старога мяха ёсць кожны, хто па розных прычынах не прымае Евангелля Хрыста. Тут і рэлігійны фармалізм, і абыякавасць, і нявера… Найменш мы думаем тады пра вучняў Хрыста. Але некаторыя каментатары і айцы Касцёла лічылі, што Езус мог гэтую прыпавесць казаць таксама пра сваіх вучняў. У тым сэнсе, што яны яшчэ слабыя для таго, каб пасціцца і маліцца, каб супрацьстаяць ворагу самастойна, з нейкім досведам веры. Езус паказвае, што прыйдзе час, і яны будуць здольныя да барацьбы, але не цяпер. Нявдольнасць чуваць з Езусам на малітве ў садзе аліўным яскрава паказвае нам гэтую немач. Застаецца пытанне: ці вучні Яна Хрысціцеля, якія задаюць Езусу пытанне пра пост, былі здольныя да такой барацьбы? Магчыма, не, бо некаторыя з іх сталіся вучнямі Хрыста. Але Езус не працягвае гэтай тэмы.

Гэты нюанс адкрывае нам адну вельмі важную праўду. Бог ведае сэрца чалавека. Бог не дае звыш сілаў, дае ў адпаведны час, калі чалавек здольны прыняць. Апостал Павел піша карынцянам, што, нягледзячы на духоўныя дары, атрыманыя імі, яны яшчэ дзеці і не здольныя прымаць больш сур'ёзнай ежу, а харчуюцца толькі малаком. Калі б Бог не праяўляў асцярожнасці з намі, а паказваў бы нам усю праўду і даваў усё адразу, то мы не вытрывалі б і паўцякалі б ад Яго. Цікава, што вельмі часта злы дух менавіта так спакушае маладых у веры хрысціянаў, паказваючы ім, што вернасць Хрысту і Яго вучэнню ім не пад сілу, што яны не змогуць і лепш ім вярнуцца да старога жыцця. Гэта вельмі распаўсюджаная спакуса. Яе перажываюць часта маладыя ў веры хрысціяне, якія сутыкаюцца з першымі цяжкасцямі. Бог жа ўсё дае ў меру і ў свой час, не дае нічога звыш нашых сілаў.

Евангеліст Лука паказвае нам, што не толькі мяхі парвуцца, але і новае віно павыцякае, і не будзе ніякай карысці. Магчыма, не раз я пра гэта кажу, але як жа гэта важна! У духоўным жыцці ёсць свае заканамернасці. Іх трэба талераваць, нельга іх абмінуць. Чарговы і чарговы раз пераконваюся, наколькі я наіўны. Як жа часта мне здаецца, што дастаткова толькі, каб мне растлумачылі, або я некаму ўсё параскладваю па паліцах – і ўсё будзе ў парадку. А аказваецца, што апроч нашага розуму і ведаў, ёсць духоўны вопыт. Гэта – перажытыя гісторыі, гэта – гады за плячыма. Калі за ведамі няма духоўнага досведу, калі яны не ідуць поруч, то адбываецца надрыў "мяха". І віно пачынае выцякаць.

Думаю, што многія вернікі маюць такі вопыт, калі нашыя веды і духоўны досвед не ідуць поруч і адбываецца балючы надрыў. Напрыклад, я зусім нядаўна са здзіўленнем адкрыў: тое, што я чытаў або чуў пра дар распазнання духаў, на практыцы зусім інакш выглядае, чым у галаве. Гэта не так і весела насамрэч, як мне здавалася. Дзякуй Богу за тое, што Ён ведае, калі, каму і што паказваць і даваць, каб наш "мех" не разарваўся. Мы таксама павінны быць асцярожнымі з тымі, хто ў веры яшчэ, як кажа апостал Павел, "немачны". Калі будзем без разбору ім усё расказваць і ўсюды цягнуць за сабой, то "мяхі" таксама могуць парвацца.

Святы Ігнацы разумеў гэта і таму пісаў, што не ўсім трэба праходзіць чарговыя тыдні духоўных практыкаванняў і не ўсім трэба тлумачыць некаторыя духоўныя правілы. Асабіста я, напрыклад, зразумеў, што далёка не ўсім трэба тлумачыць тэму духоўных дароў або чытаць каталіцкіх містыкаў.



⇒

⇐

**в) Ці можна прымусіць?**

Асаблівым чынам хачу звярнуць увагу на словы Хрыста: "Ці можаце прымусіць гасцей на вяселлі пасціць?" Думаю, многія са мной пагодзяцца, што вельмі часта нам хочацца іншых прымусіць быць вернікамі, прыстойнымі, добрымі і г.д. Але праўда такая, што прымушаць мы можам толькі дзяцей, і то да нейкага ўзросту. На дарослага ж чалавека ёсць розныя рычагі ўплыву, ды найчасцей яны звязаныя са страхам ці пагрозамі. Але дакладна, што нельга прымусіць чалавека больш верыць, пазнаваць Бога, любіць Яго ці павялічыць духоўны вопыт. Таму Езус сваім адказам нібы тлумачыць нам: гэта не лагічна – прымушаць пасціцца, калі госці гуляюць на вяселлі, бо ўсяму свой час…

**Неабходнасць абнаўлення ў Святым Духу**

У прыпавесці пра віно і мяхі Езус паказвае, што часам рамонт нічога не дасць, бо павінны адбыцца радыкальныя змены. На нейкім этапе можна было прышыць лату, і гэты рамонт, магчыма, даваў свае вынікі. Але можна дайсці да такога этапу, калі такія рамонты нічога не дадуць, і трэба мець новы мех. Бог хоча даць нам вельмі шмат, але трэба быць гатовым прыняць усё, менавіта таму неабходны рамонт або абнаўленне.

Гэты вобраз асабіста для мяне больш зразумелы на прыкладзе рамонту машыны. Часам гэтых рамонтаў становіцца так шмат, што ты пачынаеш думаць пра неабходнасць уже не рамантаваць, а мяняць машыну на новую альбо больш новую. Гэтыя змены каштоўныя, малапрыемныя, звязаныя з рызыкамі, але часта проста неабходныя.

І хоць прыпавесць кажа пра неабходнасць новага мяха для віна, то важна разумець, што за гэтым вобразам хаваецца не абсалютнае знішчэнне свайго папярэдняга жыцця, а згода на радыкальныя змены. Езус не сказаў апосталам, што іх рэлігійны досвед нічога не варты. Езус уваходзіць у духоўны вопыт Ізраіля, у традыцыі, якія складваліся стагоддзямі. Ён святкуе Пасху, моліцца ў сінагозе, цытуе Стары Запавет, адзначае шабат і іншыя рэлігійныя святы. Божы Сын не перакрэслівае гэты вопыт, але паказвае, што ёсць абсалютная неабходнасць у радыкальных зменах.

Такія змены мы часта называем "рэформай". У багаслоўі мы чуем паняцці "новае нараджэнне", "нараджэнне з вышыні", нехта кажа пра "хрост у Святым Духу". У Каталіцкім Касцёле існуе такое паняцце, як "абнаўленне ў Святым Духу". Часам мы чуем: "Аднова харызматычная". Некаторыя багасловы часоў Другога Ватыканскага Сабора падкрэслівалі, што "аднова харызматычная" не з'яўляецца рухам ці нейкай касцельнай арганізацыяй, як многія думаюць, паколькі кожны рух мае структуры і заснавальнікаў, а "Аднова" іх не мае. Гаворка ідзе пра ўнутраную глыбокую змену або рэформу, якую перажывае чалавек пасля сустрэчы са



Святым Духам. Менавіта таму назва "аднова харызматычная" неадпаведная, бо людзі засяроджваюцца на духоўных дарах, якія могуць атрымаць ад Духа Святога, а гаворка ідзе не пра дары (харызматы), а пра тыя агромністыя перамены, якія адбываюцца ў чалавеку праз дзеянне Святога Духа.

Часам бывае, што людзі атрымліваюць ад Бога харызматы, а ўнутраны і духоўны працэс абнаўлення затрымаўся. А часам наадварот: чалавек не мае надзвычайных дароў, але ён да глыбіні абноўлены ў Святым Духу, ён стаў іншым.

Працэс абнаўлення ў Святым Духу мае вялікае значэнне ў духоўным жыцці. Ён не звязаны ні з рухам, ні з нейкай спецыяльнай пабожнасцю. Часам яго перажывае чалавек, які вёў грэшнае жыццё і толькі-толькі прыйшоў да веры. Але вельмі часта абнаўленне перажываюць вернікі, чыя вера стала сухой, бясплоднай, з'явілася шмат рэлігійнага фармалізму, а замест любові да Бога і захаплення Ім прыйшло шмат мёртвых рэлігійных традыцый.

Абнаўленне ў Святым Духу – гэта вялізны падарунак ад Бога і шанец для нас. Як правіла, яно адбываецца не адзін раз. Апостал Павел заклікае: напаўняйцеся Святым Духам (Еф 5,19). Многія багасловы звяртаюць увагу, што гаворка ідзе не пра адно напаўненне Духам Божым, а пра досвед, які перыядычна павінен паўтарацца. Мы бачым гэта ў жыцці апосталаў. Яны перажылі Пяцідзясятніцу, але пасля асаблівая прысутнасць Духа Святога перажывалася імі некалькі разоў. У багаслоўі гэта называецца "малым спасланнем Святога Духа".

Дзеля чаго трэба гэтае абнаўленне і чаму яно павінна паўтарацца час ад часу? Справа ў тым, што мы надта проста чарсцвеем і становімся нежывымі. Зямля, якая перыядычна не атрымлівае вільгаці, пачынае станавіцца сухой і трэскаецца. Гэтак і з намі. Нават калі мы верна выконваем нейкія рэлігійныя правілы, але не абнаўляемся Жывой Вадой, якой ёсць Святы Дух, мы становімся сухімі і бескарыснымі. Заўважце, што зямля нікуды не знікае, проста без вады ад яе мала карысці.

Аднойчы мяне вельмі ўразіла адна песня, дзе аўтар співаў, што для некага людзі дзеляцца на разумных і неразумных, на багатых і бедных, на здаровых і хворых, а для яго існаваў толькі адзін падзел – жывыя і мёртвыя. Сустракаючыся з рознымі вернікамі, я пачаў назіраць, што мяне таксама хвалюе гэтае пытанне: ці ёсць у чалавеку хаця б крыху жыцця ад Духа Святога? І справа не ў актыўнасці чалавека, не ў яго дзейнасці, харызматах ці пабожнасці. Абнаўленне ў Святым Духу закранае чалавечае жыццё нашмат глыбей. Апостал Павел піша, што абнаўленне ў Духу прыносіць канкрэтныя вынікі, ён пералічвае тое, што дае нам Святы Дух. Гэта любоў, радасць, спакой, доўгацярплівасць, лагоднасць, дабрыня, вернасць, далікатнасць, стрыманасць (гл. Га 5,22-23). Не ведаю, ці ўсё апостал пералічыў, але у чалавеку, які перажыў абнаўленне ў Духу Святым, часта сапраўды бачныя любоў, радасць, супакой. Гэта тое, што кідаецца ў вочы.

Такім чынам, абнаўленне ў Святым Духу датычыцца не знешніх формаў малітвы (праслаўленне або паднятыя рукі), гэта таксама і не новая пабожнасць. Дух Святы мяняе ўсяго чалавека – яго пабожнасць, погляды на жыццё і на гэты свет, яго думкі, мары, адносіны з людзьмі і з Богам. Абнаўленне ў Святым Духу закранае ўсяго чалавека.

Людзі, якія перажывалі абнаўленне ў Святым Духу, пачыналі інакш пакланяцца Богу, інакш співаць. Бачу, што малітва праслаўлення для многіх сталася такім знешнім знакам абнаўлення – нешта новае, жывое. Аднак, да свайго расчаравання, я пачаў назіраць у Беларусі нейкі безлад. Ужо неаднойчы давялося бачыць, як малітвай праслаўлення называлі ўсялякую спробу пабегаць з мікрафонам па сцэне або "адарвацца" на інструментах. Мне даводзілася бачыць тое, што я б ніколі не назваў малітвай праслаўлення. Ішла гаворка, хутчэй, пра нейкі новы стыль каталіцкіх дыджэяў або завадзілаў натоўпу. Чалавек, які сам не перажыў духоўнага ўнутранага абнаўлення, а толькі знешне спрабуе заахвочваць моладзь да спеву, ніколі толкам не зразумее, што значыць праслаўляць Бога за Яго дабрыню і міласць. Ён не разумее, навошта гэта рабіць і як гэта рабіць. У выніку атрымліваецца не праслаўленне Бога, а музычная "паказуха". І гэта адразу бачна.

Такім чынам, асабліва хачу звярнуць увагу на тое, што духоўнае абнаўленне датычыцца розных сфераў нашага жыцця, а не толькі малітвы.

*(Працяг у наступным нумары)*

*viartannie.org*

# В ОАЭ обнаружен раннехристианский монастырь

**Следы раннесредневекового христианского монастыря обнаружили археологи на острове Эс-Синния в эмирате Умм-эль-Кайвайн. Раскопки вели исследователи из Объединенных Арабских Эмиратов (ОАЭ), Италии и США. Ученые считают, что монастырь возрастом порядка 1400 лет и возник до рождения ислама – это уже второй монастырь такого возраста, найденный в стране.**

Ожидается, что исследования найденного монастыря прольют новый свет на историю раннего христианства на берегах Персидского залива.

Комплекс монастырских зданий включал церковь, трапезную, водохранилища-цистерны и кельи для монахов. Как свидетельствуют результаты радиоуглеродного анализа сохранившихся обломков керамики, христианская община проживала на острове с конца VI в. до середины VIII в. и стала свидетелем становления и распространения ислама в регионе. Ученые полагают, что местные христиане постепенно обратились в ислам и растворились по мере того, как новая вера становилась доминирующей в регионе.

Остатки строительных материалов из фундамента монастыря датируются периодом 534-656 годов нашей эры. А Пророк ислама Мухаммед родился около 570 года и умер в 632 году после завоевания Мекки в современной Саудовской Аравии. Изучение культурного слоя и поэтажного плана монастыря на острове Эс-Синния показало, что ранние христиане молились в монастырской церкви с одним входом. Во внутреннем помещении, по-видимому, находилась купель для крещения и небольшая печь. В нефе обнаружены остатки алтаря и постамент под сосуд с вином для причастия. Рядом с монастырем обнаружено еще одно здание с четырьмя комнатами и оградой, защищающей внутренний дворик.

Историкам известно, что раннехристианские церкви и монастыри строились в VI-VII веке вдоль всего побережья Персидского залива до современного Омана и вплоть до Индии. Церкви и монастыри того периода уже находили в Бахрейне, Ираке, Иране, Кувейте и Саудовской Аравии. В начале 1990-х годов археологи обнаружили первый христианский монастырь в ОАЭ на острове Сэр Бани Яс у побережья Абу-Даби, недалеко от границы с Саудовской Аравией. Сегодня это место объявлено охраняемым природным заповедником с памятниками культурно-исторического наследия. Тамошний монастырь датируется тем же периодом, что и новая находка в Умм-эль-Кувейне.

*Global orthodox*



Раннехристианский монастырь на острове Эс-Синния

# У Віцебску адкрыецца выстава жывапісных твораў ксяндза Сяргея Сурыновіча

**Ад 7 снежня 2022 года ў выставачнай зале Віцебскага цэнтра сучаснага мастацтва будзе ладзіцца выстава жывапісных прац ксяндза Сяргея Сурыновіча. Адкрыццё выставы адбудзецца 7 снежня ў 16.00.**

Экспанаваныя мастацкія працы (на выставе будзе прадстаўлены 31 твор, выкананы ў тэхніцы алей на палатне) натхнёныя разважаннямі над тэмамі і праблематыкай ўзнятымі ў энцыкліцы Папы Францішка «Laudato si'».

Вобразы, прадстаўленыя на палотнах, ахопліваюць невялікую частку жывёльнага свету, што апісаныя ў энцыкліцы Пантыфіка, засяроджваюць позірк гледача на прадстаўленых мастацкімі сродкамі вывах птушак, што сустракаюцца ў нашай краіне, многія з якіх унесены ў Чырвоную кнігу Беларусі, многім з якіх пагражае цалкавітае знішчэнне.

Тэматыка выставы не назойліва і далікатна намякае гледачу, што акрамя выяў крылатых жывых істот, у творах месцыцца духоўны падтэкст і заклік да больш уважлівага і адказнага стаўлення, да беражлівага і клапатлівага шанавання створанага Богам свету.

Назва выставы "Птушыны вянок" цесна пераклікаецца з часам Адвэнту, у сукупнасці з экспазіцыяй мастацкіх прац, становіцца заданнем і клічам да абавязку захавання і зберажэння жыццяў "братоў нашых меншых", а асабліва у час чакання нараджэння і прыйсця ў свет Жыцця, нашага Збаўцы Езуса Хрыста.

У Віцебску выставу можна будзе наведаць **да 26 лютага 2023 года.** Выставачная зала знаходзіцца ў самым цэнтры горада ля летняга амфітэатра.

**-Адрас:** г. Віцебск, праспект Фрунзэ, 11

Сардэчна запрашаю!

*Кс. Сяргей Сурыновіч*

# Внезапная болезнь. Что нужно знать, чтобы с этим справиться

**Болезнь. Это, пожалуй, одна из самых тяжелых тем, о которой не хочется говорить. Внезапная болезнь – это всегда стрессогенное, порой доходящее до критического состояния явление человеческой жизни. Это сверхтрудная жизненная ситуация, определенный переломный момент, меняющий как сложившийся образ жизни, так и вносящий иногда существенные изменения в психологический статус человека. С ним происходит то, что в психологии часто называют "потерей сетевой линии общения". Как правило, меняется восприятие и отношение больного к окружающим его событиям и самому себе.**

■ Марина Ткач, *психолог*

Важно знать, что с позиции заболевшего человека всегда существует индивидуальная реакция на болезнь. Её можно описать с помощью пяти стадий переживания болезни – шок, гнев, торг, депрессия и принятие. Отмечу, что каждый человек проживает все стадии по-разному, а длительность нахождения в каждой стадии может растягиваться до нескольких месяцев. Бывает так, что человек прожил ряд стадий, и вместо того, чтобы двигаться к следующей, возвращается к предыдущей. К этому нужно быть готовым как самому заболевшему, так и его окружению. Ориентируясь на психологические состояния, которые происходят с человеком во время болезни, родным и близким будет легче выстраивать правильные взаимоотношения в этот период. Для самого больного понимание происходящих с ним психологических изменений приведет к осознанию, что это нормальная реакция психики на ненормальную ситуацию болезни.

Несколько слов о каждой из стадий переживания болезни.

**Первая стадия: шок (отрицание).** Это состояние, в которое человек входит сразу после того, как ему сообщают о диагнозе. Оно может длиться по времени от нескольких секунд или минут до нескольких часов. Когда человек узнает о страшном для него диагнозе, то психика естественным образом защищается. В этот момент у человека затруднен контакт с реальностью, то есть информация воспринимается плохо. Человеку свойственно состояние оглушения психики и легкое отупение.

**Вторая стадия: гнев (агрессия).** Это стадия крушения надежд и жизненных планов. Очень часто люди испытывают в этот момент очень сильную злость. И эта злость может быть направлена как вовне – на близких людей, на врачей, на общество в целом, на Бога, на судьбу, так и на самого себя. На самом деле, когда реакция идет вовне – это считается нормальным, несмотря на то, что может приводить к серьезным конфликтам и проблемам в отношениях. Гораздо более ненормальная реакция, когда человек направляет агрессию на себя. К этому может приводить чувство вины, когда он говорит: "Я сам виноват, что заболел. Я что-то делал неправильно". И риск этого самообвинения в том, что человек начинает разрушать свой внутренний ресурс, который мог бы направить на борьбу с болезнью.

**Третья стадия: торг.** Торг – это попытка договориться с судьбой. Таким образом, взять под контроль то, что происходит с человеком сейчас. И самый большой риск на стадии торга – это отказ от традиционной медицины, обращение к шарлатанам, к экстрасенсам, к людям, которые обещают немедикаментозными способами помочь человеку выйти из болезни. Какие здесь могут быть ошибки? Это обесценивание процессов, происходящих с человеком. В такие моменты люди могут хвататься за любые соломинки и верить в любые ритуалы. Но это не говорит о том, что с человеком что-то не так: он, наоборот, пытается таким образом обрести контроль над болезнью. Безусловно, каждый это делает по-своему.

**Четвертая стадия: депрессия.** Самая тяжелая и эмоционально непростая ситуация. Если в стадии торга человек убеждает самого себя, что от него зависит все, то в стадии депрессии возникает полностью противоположное состояние. У человека может возникнуть чувство полного отсутствия контроля и влияния на свою жизнь. И он начинает думать, что от него ничего не зависит, что все, что бы он ни делал, бессмысленно.

**Пятая стадия: принятие.** Это приобретение жизненной мудрости, выход на новый уровень своего собственного психологического развития. На стадии принятия человек находится в гармонии и чувствует себя счастливым. Это ресурсное состояние, когда человек может продолжать лечиться, улучшать свое физическое состояние в той мере, в которой он может на это хоть как-то влиять. Здесь мы можем говорить о сосуществовании человека и болезни.

Также в ситуации болезни родным и близким стоит помнить следующее:

• Избегайте двух крайностей – гиперопеки и игнорирования происходящего. Когда близкие делают вид, что ничего страшного не случилось и пытаются жить прежней жизнью, можно столкнуться с обесцениванием происходящего и ощущением одиночества, изоляции и обиды со стороны больного.

• Дайте возможность человеку быть услышанным и принятым со всеми возникающими реакциями, мыслями и состояниями. Это некая альтернатива эмоционального отдыха, столь важного в процессе совладания с болезнью.

• Не бойтесь выражать чувства, которые возникают в связи с болезнью близкого человека, например, "Мне страшно", "Я боюсь тебя потерять", "Мне хочется сделать все, чтобы помочь тебе это преодолеть", "Что я могу для тебя сделать?", "Меня злит эта ситуация и то, что я ни на что не могу повлиять". Не бойтесь выражать также жалость и сочувствие. Эти реакции показывают вашу причастность к происходящему, но не приводят к гиперопеке.

• Постарайтесь понять, какую именно поддержку ваш близкий хотел бы получить. Единого шаблона нет: для одних важны тактильные (объятия) или вербальные (выслушать) формы, для других – материально-бытовая помощь.

**Каких выражений и слов стоит избегать в разговоре с больным человеком?**

Избегайте шаблонных фраз, которые лишь обесценивают происходящее и не дают необходимой эмоциональной поддержки. Например, "Все будет хорошо", "Держись", "Ты не выглядишь больным/больной". Лучше переформулируйте их в следующие: "Что бы ни случилось, мы будем справляться", "Ты отлично держишься! А как ты себя при этом чувствуешь?". Откажитесь от таких фраз, как "Успокойся!", "Не опускай руки!", "Мысли позитивно!", "Не говори ерунды". Они часто связаны с попыткой говорящего избежать чувства беспомощности и страха, но при этом могут вызвать чувство вины и стыда за свои переживания у человека, которому они адресованы. Позвольте ему иногда эмоционально "опустить руки", расплакаться, "говорить ерунду" (чаще всего речь идет о переживании страха смерти / страха рецидива), что позволит ему передать сложные переживания, которые практически всегда фоном его сопровождают.

Молчаливые объятия гораздо красноречивее тысячи слов поддержки. Они дают чувство безопасности и защищенности, позволяют почувствовать, что ты не один и справишься или попытаешься справиться с тем, что происходит в жизни. Помните об этом.

# Як назваць чалавека, каторы не мае пастаяннага месца жыхарства?

**Тэму дадзенага моўнага артыкула падказала спрэчка, можна сказаць, нават дыскусія, сведкам, а потым удзельнікам якой стаў і аўтар гэтага матэрыялу. Едучы ў цягніку, пасажыры заўважылі праз акно, як два ўжо немаладыя і не вельмі ахайна апранутыя мужчыны корпаюцца ў кантэйнеры для смецця. І вось жанчыны, што сядзелі побач, на цудоўнай беларускай мове пачалі абмяркоўваць, спрачацца, даказваць адна адной, як жа павінна гучаць па-беларуску ўсім знаёмае слова бомж. Тое, што гэта пазычанне з рускай мовы, зразумела ўсім. Але ж сапраўды: ці маем мы нейкі іншы адпаведнік у беларускай мове? Паспрабуем разабрацца.**

■ Юрась Бабіч , *кандыдат філалагічных навук*

Назоўнік *бомж* стаў ужывацца ў нашай мове напрыканцы 80-ых гадоў ХХ стагоддзя. І першапачаткова гэта быў элемент прафесійнага жаргону міліцыянераў: чалавека, што не меў пастаяннага месца жыхарства, пазначалі своеасаблівай абрэвіятурай, якая расшыфроўвалася па-руску – *"без определенного места жительства"*. У такім скарочаным выглядзе слова замацавалася і ў беларускім кантэксце. Прыгадаем тут хоць бы ўрывак з рамана В. Казько "Бунт незапатрабаванага праху": *"Імі была перазаселена тайга і геолагаразведка, людзьмі без прапіскі і пастаяннага месца жыхарства – слова "**бомж**" тады яшчэ не было ў прыродзе, лічылася, што такіх людзей у сацыялістычным грамадстве проста не існуе, яны ліквідаваны як клас залпам "Аўроры". І было ў тых людзях, іх тварах, пазірках нешта бясконца турботнае і жаласлівае, сапраўды сабачае..."* Зрэшты, не толькі пісьменнікі не цураюцца гэтага слова, але і паэты часам уводзяць яго ў свае рыфмаваныя радкі: ***Бомж** *стаіць немалады, / Каля ног яго – сабакі. / Торба, пляшка з-пад вады / – Скарб няхітры небаракі* (П. Саковіч); ***Бамжы*** *даўно працуюць крута – / На звалку едуць, шчыруны, / Там пляшкі – цвёрдую валюту – / Бяруць сабе штодня яны* (В. Жуковіч).

Прыкладаў можна прыводзіць яшчэ шмат. Але скажам толькі, што замацаваліся ў гутарковай камунікацыі і формы *бомжык, бамжыха, бамжатнік, бамжаваць*. Падкрэслім, менавіта ў гутарковай камунікацыі. Дарэчы, слова *бомж* фіксуюць і "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (1996), і "Слоўнік беларускай мовы" (2012). Цалкам зразумела, што ў літаратурнай мове падобныя лексемы ўжывацца не могуць. І тады паўстае пытанне, вынесенае ў загаловак.

З пункту гледжання культуры маўлення можна разглядаць два назоўнікі з акрэсленым вышэй значэннем: **бяздомны (бяздомнік)** і **беспрытульны (беспрытульнік)**. Прычым першая з названых пар з'яўляецца асноўнай і таму выкарыстоўваецца нашмат часцей, чым другая. Так, мы можам пачуць: ***Бяздомных*** *часова размясцілі ў пункце дзённага знаходжання; Металалом скраў **бяздомнік**, якога тут раней часта бачылі; Некалі паспяховы чалавек фактычна ператварыўся ў **бяздомнага**; Некалькі **бяздомнікаў** пасялілася непасрэдна каля сметніка.*



Мы заўважаем таксама выкарыстанне згаданага назоўніка і ў творах нашых класікаў. Так, у трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" слова **бяздомнік** ужыта з адценнем іроніі, з пэўнай доляй жарту: *"Ліда яшчэ толькі-толькі распускаецца ў прыгожую кветку, з мілага нявіннага падлетка перараджаецца ў маладую дзяўчыну, якая потым на яго [Лабановіча], **бяздомніка**, можа, і глядзець не захоча".*

Звернем увагу, што замацавалася ў камунікацыі і форма жаночага роду – **бяздомніца**: *Некалькі гадоў Тацяна была **бяздомніцай**, пакуль адной чы не сустрэла Васіля. "Я не **бяздомніца**, – пакрыўдзілася жанчына. – Хоць не маю дзе жыць у горадзе, у вёсцы ў мяне засталася бацькоўская хата..."*

Падкрэслім яшчэ раз, што назоўнікі **беспрытульны** (**беспрытульнік**) ужываюцца значна радзей. Да таго ж тут рэалізуецца і іншае значэнне: "бяздомнае дзіця ці падлетак, якія страцілі сям'ю ці адарваліся ад яе і жывуць без догляду і выхавання дзе давядзецца".

Такім чынам, у беларускай літаратурнай мове чалавека, які не мае свайго жылля, не мае сталага месца пражывання можна назваць **бяздомным** ці **бяздомнікам**. Гэтыя назоўнікі не маюць такой выразнай негатыўнай эмацыянальнай афарбоўкі, як калька з рускай мовы *бомж*. Таму яны могуць ужывацца ў розных маўленчых сітуацыях і не парушаюць патрабаванні культуры мовы.

# Цудоўны медалік Маці Божай

**У Беларусі 4 верасня распачалася перэгрынацыя Цудоўнага медаліка. Яна праходзіць у межах дзевяцігадовай навэнны, якая распачалася ў 2021 годзе і скончыцца ў 2030-ым, калі мы будзем святкаваць 200-годзе аб'яўленняў Маці Божай Кацярыне Лябурэ.**

**■ Лаліта Арлоўская**

Ініцыятыву навэнны прапанаваў ксёндз-місіянер св. Вінцэнта дэ Поля Вальдэмар Ракоцы, а сёстры-шарыткі (сёстры Міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля) сталі дапамагаць у яе распаўсюджванні. Гэта адбылося ў Польшчы ў 2021 годзе. У маі 2022 года стала зразумела, што перэгрынацыя будзе адбывацца і ў Беларусі. Пра перэгрынацыю Цудоўнага медаліка "Каталіцкаму Веснiку" распавяла сястра Ірына Грыгаровіч.

"Сястра Кацярына Лябурэ належала да нашай кангрэгацыі, таму мы адчуваем, што знаёміць людзей з гэтымі аб'яўленнямі – наша місія. Мы адчуваем адказнасць, бо, атрымаўшы такі вялікі дар, не можам проста забыць пра яго. Да таго ж мы бачым вельмі многа людзей, якія носяць медалік, але не да канца разумеюць яго сімволіку. Таму мы вырашылі зрабіць нешта падобнае ў Беларусі," – гаворыць сястра Ірына – асоба, адказная за перэгрынацыю.

Звычайна сёстры-шарыткі, якіх яшчэ называюць Дочкамі міласэрнасці, апякуюцца хворымі і пакінутымі і праводзяць катэхезу. Такая харызма кангрэгацыі.

"Я ведаю: тое, што мне даверылі сёстры, – вялікая адказнасць, я адчуваю сябе вельмі маленькай у гэтым. Але я шчаслівая, што займаюся гэтай справай. Я як прадстаўніца сясцёр, пачынаючы ад верасня, была ўжо ў адзінаццаці парафіях, дзе распавядала аб аб'яўленнях," – кажа с. Ірына.

Манахіня разам з моладдзю адзін ці два разы на месяц наведвае парафіі, каб распавесці пра медалік, яго гісторыю, значэнне, і каб заахвоціць вернікаў далучыцца да дзевяцігадовай навэнны. Першае, на што яна звяртае ўвагу слухачоў, – гэта цудадзейнасць медаліка.

**Чаму медалік цудоўны? Бо наша вера чыніць яго цудоўным!**

У Італіі ў 1960-я гады маленькая дзяўчынка Аня ўпала ў калодзеж (9 метраў, дзе было 3,5 метра вады). Аня мела чатыры гады. Яна насіла медалік, бо атрымала яго ў дзіцячым садку. Дзяўчынка разумела, што гэта такое, і малілася як умела. Калі Аню выцягнулі з калодзежа, то заўважылі, што яна была абсалютна сухая. Вядома, што ў звычайных абставінах гэта было б немагчымым. Калі тата дзіцяці спытаўся ў яе, як так сталася, яна распавяла, што яе трымала на руках прыгожая Панна ў белым. Пасля гэтага Анін тата навярнуўся да веры і стаў руплівым апосталам Маці Божай.

"Я заўсёды ў парафіях распавядаю такі прыклад цудоўнага выратавання дзіцяці праз гэты медалік. Таму што на першых лаўках у парафіях звычайна шмат дзяцей, якіх хочацца зацікавіць. Гэта лёгка зрабіць праз апавяданне цудоўнага здарэння, якое адбылося з Аняй," – падзялілася сястра Ірына.

У 1842 годзе адбыўся яшчэ адзін цуд навяртання, звязаны з медалікам. Альфонс нарадзіўся ў яўрэйскай сям'і, але ён не быў вернікам увогуле. Таму брат яго сябра даў яму гэты медалік, кажучы: "А ты і так ні ўва што не верыш, то насі" і папрасіў усіх сваіх знаёмых, каб за яго маліліся. Аднойчы Альфонс прысніў літару "М" з малым крыжам, які павялічваўся ў памерах. У сне крыж стаўся настолькі вялікім, што ледзь не задушыў Альфонса. Але тады ён не зразумеў, што гэта быў за сон, і не звярнуў увагі. Калі памёр адзін са знаёмых Альфонса, брат яго сябра разам з ім пайшлі дамаўляцца пра пахаванне ў касцёл. Альфонс на некалькі хвілін застаўся адзін у касцёле, пакуль брат яго сябра вырашаў пытанне з пахаваннем. Мужчына у гэты момант убачыў абраз арханёла Рафала, які ішоў з Тобіем. Яго гэта зацікавіла, бо ён таксама насіў другое яўрэйскае імя – Тобій. Малады чалавек падышоў да абраза і ўбачыў Марыю, Якая явілася яму ва ўсёй сваёй прыгажосці. Марыя нічога яму не сказала, толькі ўздыхнула. Але ў той момант Альфонс усё зразумеў.

Гэтыя цуды паказваюць, што Маці Божая выпрошвае іх не як узнагароду для вернікаў, правільных і пабожных людзей, але ўсе маюць магчымасць іх атрымаць ці стаць сведкам цудаў для паглыблення веры.

**Гісторыя з'яўлення медаліка**

Медалік быў адкрыты Маці Божай сястры Кацярыне Лябурэ з кангрэгацыі Дачок міласэрнасці падчас аб'яўленняў.

Першае аб'яўленне адбылося ў ноч з 18 на 19 ліпеня 1830 года. У тую ноч Кацярына ўбачыла Марыю ў капліцы, дакранулася да Яе і паклала свае рукі на яе калені. Спатканне трывала дзве гадзіны. Падчас гэтага Маці Божая рыхтавала Кацярыну да місіі, якую дарычыць ёй пазней.

Другое аб'яўленне адбылося 27 лістапада падчас супольнай малітвы. Менавіта тады Маці Божая аб'явіла цудоўны медалік.

Кацярына ўбачыла Маці Божую, Каторая стаяла на белым паўшар'і, была апранутая ў белую сукенку і белы вэлюм, які спадаў з двух бакоў да яе стопаў. У далонях Марыя трымала залаты зямны шар з малым крыжам на вяршыні. Гэты крыж сімвалізаваў адкупленае з граху чалавецтва. Яе позірк быў нібы скіраваны ўверх, Марыя прабывала ў малітве да Сына. У пэўны момант на яе пальцах з'явіліся пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі, і менавіта з гэтых пярсцёнкаў, а не з рук Марыі, выходзілі промні – сімвал ласкаў.



Беззаганная была прадстаўлена як тая, Якая прымае ўдзел у нашай барацьбе са злом, Яна растоптвае змея. Некаторыя промні з пярсцёнкаў былі больш яскравыя, іншыя – менш. Кацярына спыталася ў Марыі, чаму так? На што Марыя адказала: яскравыя промні – гэта ласкі, якія людзі просяць у Яе, амаль невідочныя промні – гэта ласкі, каторых людзі не просяць.

**Што азначае Цудоўны медалік?**

Медалік – гэта не талісман, але знак апекі Марыі над чалавецтвам, Якая атрымала гэтую місію ад Хрыста. Калі Марыя стаяла пад крыжам Свайго Сына разам з Янам, Яна пачула ад Езуса такія словы: "Вось Сын Твой". Езус у той момант гаварыў не толькі пра Яна, але пра ўсё чалавецтва. Менавіта тады Марыя ўзяла чалавецтва ў апеку.

На аверсе медаліка выяўлена сцэна з візіі святой Кацярыны. Маці Божая прадстаўлена як беззаганна зачатая, значыць, вольная ад усякага граху. Марыя растоптвае галаву змея – гэта сімвал таго, што Яна прымае ўдзел у нашай барацьбе са злом. Яна падтрымлівае нас на шляху да поўнага з'яднання з Сынам – гэта азначаюць промні святла. На рэверсе медаліка літара "М" з малым крыжам – гэта сімвал Беззаганнай, якая трымае ў далонях зямны шар. Каля падножжа літары "М" знаходзяцца зраненыя сэрцы Езуса і Марыі. Яны сімвалізуюць паходжанне місіі Марыі ад яе Сына. Дванаццаць зорак сімвалізуюць дванаццаць пакаленняў Ізраэля, а пазней – 12 апосталаў, і, такім чынам, – нас, Касцёл як новы народ Божы. Але перш за ўсё яны сімвалізуюць вялікае святло Хрыста, што асвятляе ўсё чалавецтва. Як кажа Езус, "Я – Святло свету".

**Набажэнства медаліка**

Маці Божая прасіла прыняць медалік і насіць яго на шыі як знак Яе апекі. Таксама Яна дала падчас аб'яўленняў заклік "О, Марыя, без граху зачатая, маліся за нас, хто ў цябе паратунку шукае", і прасіла маліцца. Маліцца можна ружанцам, калі гэта магчыма – у супольнасці і перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Можна далучыць і іншыя формы шанавання Марыі.

Да малітвы дзевяцігадовай навэнны можа далучыцца кожны вернік, молячыся ў сваёй інтэнцыі дзевяць дзён або раз на тыдзень па магчымасці.

# Перэгрынацыя Цудоўнага медаліка ў Верхнядзвінску

**13 лістапада парафію Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску наведалі сёстры з Кангрэгацыі Дачок Міласэрнасці святога Вінцэнта дэ Поля (шарыткі) разам з прадстаўнікамі Вінцэнтскай Марыйнай моладзі (Дзеці Марыі), каб расказаць вернікам пра Цудоўны медалік.**

Сустрэча адбылася ў межах падрыхтоўкі да 200-годдзя аб'яўлення Найсвяцейшай Панны Марыі святой Кацярыне Лябурэ, якое будзе адзначацца ў 2030 годзе. 31 мая 2022 года каталіцкія біскупы Беларусі блаславілі сясцёр Кангрэгацыі Дачок Міласэрнасці і ксяндзоў-місіянераў на правядзенне Навэнны "Цудоўны медалік: знак з Неба і ўказальнік шляху да Неба", у межах якой запланаваныя перэгрынацыі медаліка ў парафіях Беларусі. Пачатак быў пакладзены 4 верасня ў Пінскай дыяцэзіі.

У Віцебскай дыяцэзіі ў гэтым годзе медалік наведае тры парафіі. 16 кастрычніка сёстры-шарыткі пабывалі ў Браславе, потым – Верхнядзвінск, а 27 лістапада Цудоўны медалік сустрэнуць у парафіі святой Барбары ў Віцебску.

Каб расказаць пра Цудоўны медалік і аб'яўленні маці Божай, у Верхнядзвінск прыехалі с. Ірына Грыгаровіч Fdlc з Шуміліна і с. Валянціна Гацкевіч Fdlc з Мінска. Пасля святой Імшы с. Ірына распавяла гісторыю аб'яўленняў Маці Божай св. Кацярыне Лябурэ, засяродзіўшы асаблівую ўвагу на надзвычайнай моцы Цудоўнага медаліка для тых, хто яго носіць з пашанай. Сястра заклікала маліцца да Маці Божай Цудоўнага медаліка аб неабходных ласках для сябе і сваіх блізкіх, а асабліва для тых, хто адышоў ад Бога, аб іх навяртанні.

Пасля Ірына і Ульяна, дзяўчаты, якія прыехалі разам з сёстрамі з Мінска і з'яўляюцца прадстаўнікамі Вінцэнтскай Марыйнай моладзі, раздалі ўсім прысутным невялікія буклеты "Дар Марыі" з гісторыяй і сутнасцю аб'яўленняў Маці Божай.

Затым усе разам памаліліся Навэннай да Маці Божай, Якая аб'явіла Цудоўны медалік, просячы аб Божых ласках для кожнага з прысутных, нашай краіны і ўсяго свету. На заканчэнне сустрэчы сёстры разам з моладдзю ўручылі ўсім ахвотным медалікі. Дарэчы, тэкст малітвы на медаліках выгравіраваны на беларускай мове.

*Kascelmery.by*



# Во Франции монахини с синдромом Дауна призывают “обычных” сестер приехать в общину

**Единственная в мире обитель монахинь с синдромом Дауна, затерянная в горном районе Франции, призывает к себе “обычных” сестер из Америки в качестве помощниц, а тем временем занимается огородничеством, вязанием, ткачеством и сбором лекарственных трав, сообщает “Седмица.Ru” со ссылкой на *catholicnewsagency*.**



Община монахинь с синдромом Дауна обитает в горной коммуне Ле Блан в департаменте Эндр (примерно в 270 км к югу от Парижа), где добросовестно выполняет свое призвание – творит созерцательные молитвы, как рассказывает в интервью изданию CNA мать Лайн, настоятельница обители. В настоящее время монахини приглашают в обитель здоровых сестер из Америки.

Женский монашеский орден Les Petites SœUrs Disciples de l'Agneau (Малых сестер-учениц Агнца) возник в результате “встречи двух призваний”, как свидетельствует мать Лайн в интервью. В 1985 году она познакомилась с молодой женщиной с синдромом Дауна – сестрой Вероникой. Та посетовала, что давно уже ощущает в душе настоятельное призвание от Бога к монашеской жизни и даже обращалась в несколько обителей, но те ее отвергли. Мать Лайн ощутила глубину и истинность призвания сестры Вероники к монашеству, и в итоге они приняли решение объединиться для монашеской жизни в надежде, что другие молодые женщины с синдромом Дауна, ощущающие призыв к монашеству, со временем присоединятся к их малой общине.

Мать Лайн признается, что в то время Церковь и монашеские общины не были готовы признать, что “человек с синдромом Дауна может также слышать призвание от Бога” к религиозной жизни. Сама мать Лайн прошла долгий путь в изучении психологии и в преподавании катехизиса, близко знала многих людей с синдромом Дауна и часто обнаруживала в них “глубокую духовность”, а потому приняла сестру Веронику и укрепилась в этом благом начинании. Шло время, и все больше женщин с синдромом Дауна присоединялись к их небольшой общине, а затем ее признала и Церковь. В 1999 году архиепископ Буржский Пьер Плато благословил учреждение Малых сестер-учениц Агнца как “официальной религиозной обители созерцательной жизни”.

В 1995 году, еще до официального признания, община обосновалась в живописной горной местности коммуны Ле Блан департамента Эндр, где обитает и поныне. Сегодня в ней семь сестер с синдромом Дауна живут с матерью Лайн и сестрой Флоренс, исполняя свое духовное призвание через непрестанные созерцательные молитвы и труды. Их небольшой монастырь соседствует с сельской общиной, и сестры стараются органично сочетать духовные занятия с простыми повседневными трудами. В 2010 году при монастыре была возведена небольшая часовня на холме в окружении гор и лесов.

Мать Лайн говорит, что люди с синдромом Дауна “особенно предрасположены к созерцательной жизни”. При этом сестры ее обители неизменно вдохновляются в своем духовном и физическом труде поучением святой Терезы Калькуттской (Матери Терезы): “делайте малые дела с великой любовью”. “Мы следуем путем Матери Терезы, повторяя за ней смиренные слова “великие свершения не наш удел”, – гласит послание на веб-сайте монашеской общины. – Мы осознаем, что никогда не станем великими богословами. Наша жизнь предельно проста и скромна, и в этом, несомненно, подобна сокрытой жизни Иисуса, Марии и Иосифа из Назарета в изгнании”.

Каждый день малые сестры посвящают молитвам и богослужениям. При этом их образ жизни во многом строится по традициям сестер-бенедиктинок в плане разумного сочетания молитв и трудов праведных. “Постоянные занятия трудом очень важны для наших малых сестер, – говорит мать Лайн, – ибо мы не допускаем в нашу жизнь греховную праздность”.

Большую часть своих трудов и времени сестры посвящают уходу за садом и огородом, сбору и сохранению урожая плодов и овощей, домашним заготовкам и ремеслам. Они делают домотканые полотна, вяжут шарфы и сумки, собирают лекарственные травы для чая, которые продают в специальных монастырских магазинах вместе с другими обителями.

Самое главное для сестер, по словам матери Лайн, чтобы единоверцы осознали: у этих женщин есть свое подлинное призвание и служба от Бога. “Мы не богадельня для людей с ограниченными возможностями, мы монашеская община, – подчеркивает мать Лайн. – Каждая наша сестра приняла личное осознанное решение о служении Господу, придя в нашу общину. У каждой из нас есть подлинное призвание к молитвенной жизни от Бога. Никого из нас сюда не посылали родители или родня, как в приют для неполноценных. В действительности каждая наша сестра лично пришла к такому решению”.



Мать Лайн признает, что малые сестры могут полноценно исполнять свое духовное призвание лишь при поддержке “обычных сестер”. А это пока лишь сама настоятельница и сестра Флоренс, которые всецело посвящают себя этой миссии. Теперь, по ее словам, община возносит молитвы о том, чтобы нашлись “трудоспособные сестры из Америки”, готовые приехать в общину.

“В Европе очень, очень трудно найти молодых женщин, желающих войти в общину, дабы помогать в духовных и мирских трудах и быту сестрам с синдромом Дауна, – жалуется мать Лайн. – А вот у американцев совсем иное отношение к людям с синдромом Дауна, не как у европейцев. Их там [в Америке] считают человеческими существами. В Европе большинство людей с синдромом Дауна отправляют в специальные лечебницы, дома и приюты. А вот в США люди с синдромом Дауна живут в своих семьях. И это правильно”.

Вот почему малые сестры надеются, что публикация в издании CNA об их общине поможет им подыскать молодых сестер, которые пожелают приехать во Францию и служить Богу вместе с ними. “Мы были бы очень рады принять к себе в обитель молодую американку, – говорит мать Лайн. – Мы готовы также принимать молодых сестер, приезжающих к нам на время, чтобы познать жизнь нашей общины, освоить ее практический опыт и впоследствии применить его по возвращении в США. Пусть там тоже возникают и процветают подобные монашеские общины”.

Молодым женщинам, которые готовятся принять монашеские обеты, малые сестры предлагают особые испытательные послушания (ретриты), чтобы твердо убедиться в том, что Господь призывает их к этому служению. Мать Лайн подчеркивает, что призвание жить и служить с малыми сестрами, несущими крест синдрома Дауна, – это все же “пожизненное обязательство” для избранных сестер. “Вы должны быть надежными и верными, – говорит настоятельница, – поскольку в нашем образе жизни есть свои испытания, и это требует большого терпения. Однако для меня самой радости жизни и общения с малыми сестрами давно перевешивают любые трудности. Мы сами многому учимся у них, особенно духовно. К примеру, узнаем очень многое о прощении. Они очень хорошо умеют прощать, а “обычным” людям это духовное качество дается непросто. Они учат нас смирению и прощению на пути к Богу”.

# В центре Бишкека построят кафедральный католический собор

**В центре Бишкека построят кафедральный католический собор. Об этом на пресс-конференции в *24.kg* сообщили представители духовенства, участники и авторы проекта.**

“Это знаменательный день и знаменательное, историческое событие не только для католиков Кыргызстана, но и для всех кыргызстанцев. Строительство нового храма будет иметь в том числе и большое международное значение. Наша республика придерживается демократических принципов и свободы вероисповедания. Возведение кафедрального собора является подтверждением этого”, – сказал советник президента Кыргызстана и апостольской администратуры Валерий Диль.

По словам архитектора Александра Клишевича, уже подготовлена проектно-сметная документация будущего собора. Приобретен земельный участок.

“Строительство начнется предстоящей зимой и продлится 2-3 года. При разработке проекта была поставлена определенная задача: собор должен соответствовать традициям католической архитектуры, но с учетом современности, чтобы в итоге он вписался в общую архитектуру столицы. Комплекс будет состоять из храма и административного корпуса”, – сказал архитектор.

Важность строительства храма отметил глава католической церкви Кыргызстана Энтони Коркоран: “Мы молимся по-разному, но в конечном итоге всегда преследуем единые цели – делать мир вокруг нас лучше. Католическая церковь всегда поддерживала Кыргызстан, в том числе и в тяжелые для республики дни: во время ошских событий, пандемии коронавируса и не только. Когда Папа Римский Франциск полтора месяца назад в Нур-Султане освящал краеугольный камень для новой католической церкви в Бишкеке, он напомнил всем нам о важности нашей миссии – помогать нуждающимся”, – подчеркнул священнослужитель.



Он напомнил, что впервые представители католицизма появились на территории нынешнего Кыргызстана в XIII–XIV веках. В 1969 году была зарегистрирована первая католическая община в городе Фрунзе, которая в 1981-м насчитывала 533 человека. Сегодня это больше двух тысяч верующих. 27 августа 1992 года между Кыргызстаном и Ватиканом были установлены дипломатические отношения.

В настоящее время действуют приходы в Бишкеке, Таласе и Джалал-Абаде. Католические организации на постоянной основе оказывают помощь малоимущим, детским домам и домам для пожилых людей. Представители церкви организовали курсы по математике, физике, информатике, химии и биологии для старшеклассников республики.

# Біскуп Атаназій Шнайдэр прадставіў сваю кнігу ў Віцебску

**4 лістапада ў канферэнцыйнай зале катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага ў Віцебску адбылася сустрэча з біскупам Атаназіем Шнайдэрам, падчас якой ён прадставіў сваю кнігу "Christus Vincit" ("Хрыстос перамагае").**

■ **Лаліта Арлоўская**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Кніга пачынаецца з аповеду пра гісторыю сям'і біскупа. У гэтай частцы шмат гаворыцца пра захаванне веры падчас нападкаў на Каталіцкі Касцёл з боку савецкай улады і падкрэсліваецца роля прыкладу сям'і ў выхаванні добрага хрысціяніна. Таксама распавядаецца пра яго жыццё ад падлеткавага ўзросту і аж да служэння ў Казахстане. Фактычна, кніга з'яўляецца біяграфічнай.




У выданні прадстаўлены і думкі аўтара пра касцельнае і культурнае жыццё Казахстана, Расіі і Еўропы. Паказваецца вялікая роля захавання духоўных традыцый. Адной з мэтаў напісання гэтай кнігі аўтар называе вяртанне католікам, якія будуць яе чытаць, веры і надзеі на перамогу Хрыста над цемрай граху і смерці.

Біскуп Атаназій таксама нагадвае ў сваёй кнізе пра пакліканне кожнага хрысціяніна бараніць і распаўсюджваць сваю веру як сярод вернікаў, так і паміж нявернікамі. Каб адны ўзмацняліся, а іншыя – навярталіся.

Пасля прэзентацыі шаноўны іерарх адказаў на шматлікія пытанні зацікаўленых слухачоў.

Атаназій Шнайдэр з'яўляецца дапаможным біскупам архідыяцэзіі Святой Марыі (Астана). Ён прыбыў у Беларусь з Казахстана, каб прыняць удзел у Міжнародным малітоўным кангрэсе ў абарону жыцця, які ў гэтым годзе прайшоў у Навагрудку з 4 па 7 лістапада.

# Дыяцэзіяльная сустрэча святароў і кансэкраваных асобаў Віцебскай дыяцэзіі

**10 лістапада ў Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі праходзіла дыяцэзіяльная сустрэча святароў і кансэкраваных асобаў Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

У праграме была адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Таксама ўдзельнікі сустрэчы мелі магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння, набыць неабходную духоўную літаратуру.

Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. На пачатку Імшы іерарх прывітаў прысутнае духавенства і прадстаўнікоў каталіцкіх СМІ. У гаміліі біскуп узгадаў святога Папу Льва Вялікага і параўнаў сітуацыю ў Касцёле і свеце ў той час з рэаліямі сённяшняга жыцця. Таксама прапанаваў у кантэксце ўрыўка са Святога Пісання, якое пачулі прысутныя, кожнаму задаць сабе пытанне: "Кім мяне лічаць людзі?" і падкрэсліў неабходнасць кожнай духоўнай асобы ў нялёгкі час выпрабаванняў быць светачам і арыенцірам для ўсіх людзей, якія адчуваюць разгубленасць. Малітва, пост, міласціна – абавязак кожнага, а таксама духоўнае змаганне, каб Божая рэчаіснасць перамагла ў сучасным свеце.



Пасля Імшы былі анансаваны найбліжэйшыя падзеі ў дыяцэзіі. Ардынарый выказаў словы падзякі і павіншаваў святароў, якія адзначылі юбілеі святарскіх пасвячэнняў, склаў віншаванні тым, хто ў найбліжэйшыя дні адзначыць імяніны і чарговыя гадавіны святарства, нагадаў, што аплацкавая сустрэча святароў і кансэкраваных асобаў адбудзецца 21 снежня ў Полацку. Біскуп Алег нагадаў, што 12 лістапада Касцёл адзначае ўспамін святога Язафата Кунцэвіча – біскупа і мучаніка, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.

Затым адбыліся канферэнцыя для святароў, якую правёў ксёндз Валерый Марцiноўскі, і канферэнцыя для законных сясцёр, якую ўзначаліў ксёндз Анджэй Юхневіч.

# Тэст на "Ж"

"Каталіцкі веснік" прапануе наступны тэст на літару "Ж". Пад кожным пытаннем неабходна напісаць правільны адказ!

**1** **Рух, які складаецца з супольнасці людзей, каторыя штодзённа на працягу месяца моляцца Ружанец, называецца...**



**2** **Як называецца каталіцкая газета Гродзенскай дыяцэзіі? "Слова ..."**



**3** **Устаўце замест шматкроп'я словы з Евангелля паводле св. Мацвея, якіх не хапае. (Мц 9,37) "... сапраўды вялікае, ды работнікаў мала; таму прасіце Гаспадара ..., каб паслаў работнікаў на ... сваё"**



**4** **Вёска Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці, дзе знаходзіцца касцёл, што на фота...**



**5** **Адна з 5-ці ўмоваў сакраманту пакаяння ...**



**6** **Яно не будзе мець канца...**



**7** **Вялікая пятніца ў Касцёле – дзень строгага посту і ...**



**8** **Яны насміхаліся з Езуса...**




**9** **Святая Альжбета .... для Захарыя.**



**10** **Імя кананізаванай візіянеркі з Фацімы?**



*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 12**

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 снежня – імяніны** адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**7 снежня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**8 снежня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**11 снежня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Раман Мурзіч**, **імяніны** адзначаюць **а. Вальдэмар Куява OFMconv** *(Удзела)*, **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**14 снежня – імяніны** адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**16 снежня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**17 снежня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Аляксандр Шаўцоў** *(Полацк)*;

**24 снежня – дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*, **брат Адам Пяцельчык OMI** *(Шуміліна)*;

**27 снежня – дзень нараджэння** адзначае **а. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*.



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Першае дыяцэзіяльнае спатканне ўдзельнікаў Апостальства дапамогі душам чыстцовым

**29 кастрычніка ў Браславе ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў адбылося Першае дыяцэзіяльнае спатканне ўдзельнікаў Апостальства дапамогі душам чыстцовым (АДДЧ). На сустрэчу прыбылі групы з Глыбокага, Полацка, Мёраў, Паставаў, прысутнічалі і мясцовыя вернікі.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



Напачатку ўсіх прысутных прывітаў ксёндз Славамір Самковіч, адказны за АДДЧ у Віцебскай дыяцэзіі. Затым аніматары парафіяльных групаў расказалі пра ўзнікненне і колькасць удзельнікаў руху, якіх у Мёрах – 240 чалавек, у Глыбокім – 62, у Полацку – 26, у Паставах –137, у Браславе – 60.

Вернікі супольна памаліліся Вяночак за памерлых і ружанец у інтэнцыі памерлых чальцоў АДДЧ і душаў, якія церпяць у чысцы.

Канферэнцыю прамовіла Аліна Новікава – галоўны аніматар АДДЧ у Беларусі. Спадарыня Аліна пазнаёміла з гісторыяй заснавання Кангрэгацыі сясцёр-памочніцаў душам чыстцовым і Апостальства дапамогі душам чыстцовым. Заснавальнік Кангрэгацыі – бласлаўлёны айцец-капуцын Ганарат Казьмінскі.

Супольнасць узнікла 10 лістапада 1889 года. Кіравала ёй Ванда Алендская. Калі маці Ванда па стане здароўя ўжо не магла ўзначальваць Кангрэгацыю, адказнасць за супольнасць а. Ганарат даверыў Наталлі Нітаслаўскай, якая паходзіла з мястэчка пад Оршай. Рух АДДЧ узнік у 1985 годзе па просьбах свецкіх людзей, якія жадалі маліцца за душы памерлых, каб несці ім палёгку. "Святая і збавенная думка маліцца за памерлых, каб яны былі вызваленыя ад грахоў" (пар. 2 Мак 12, 45). Слуга Божы біскуп Лазінскі заахвочваў вернікаў маліцца за душы чыстцовыя і сам ахвяраваў сваё жыццё за душы, якія пакутуюць у чыстцы. Да АДДЧ акрамя свецкіх належаць і духоўныя асобы. Дакладчыца падкрэсліла, што важна маліцца таксама за тых, хто памірае, бо Бог спадзяецца на навяртанне да апошняга ўздыху чалавека.

Тэма канферэнцыі ксяндза-экзарцыста Мікалая Ціхановіча – "Малітва за памерлых – актыўны ўдзел у вырataванні душаў". Святар падзяліўся сваім досведам экзарцыста. Душы, што церпяць у чысцы, упэўненыя ў выратаванні, ведаючы, што іх мукі не вечныя, хутка закончацца. Але душа ў чысцы дапамагчы сабе не можа. Душы моляцца малітвай праслаўлення Бога і ўзносяць просьбы за жывых. Таму так неабходная малітва жывых за душы памерлых. Душы ў чысцы моцна пакутуюць, калі родныя не моляцца за іх, калі адыходзяць ад веры.

Святую Імшу падчас сустрэчы ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. Падчас гаміліі іерарх сказаў, што малітва за душы ў чысцы – справа нашай веры. Недахоп любові ў жыцці і як наступства – чысцец пасля смерці. Мы вярнуліся да практыкавання веры, але неабходна, каб вера была жывая, а наша жыццё было падобным да жыцця Хрыста. Бог стварыў нас для вечнасці. Непавага да веры вядзе да войнаў. Грэх пачынаецца ў сэрцы чалавека, а з сэрца прамаўляюць вусны. Трэба не толькі маліцца за памерлых, але перамяняць сваё жыццё дзеля памерлых. У наш час чысцец вельмі хутка папаўняецца душамі, якія не былі падрыхтаваныя да пераходу ў вечнасць. Няхай малітва стане крыніцай жыцця. Няхай малітва за памерлых дапамагае нам быць сведкамі веры.

Таксама біскуп Алег выказаў надзею, што колькасць удзельнікаў Апостальства дапамогі душам чыстцовым павялічыцца.



# "Карытас" з клопатам пра пажылых людзей



Стол для малявання пяском у Рэсурсным Цэнтры

**Пры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі дзейнічае Рэсурсны Цэнтр для сацыяльнай інтэграцыі. У межах дадзенага праекта арганізавана дзённае знаходжанне для пажылых людзей, у тым ліку і для тых, якія церпяць на дэменцыю ці маюць інваліднасць.**

■ **Марына Ткач**, *тэкст*

Наведвальнікі Цэнтра і іх родныя маюць магчымасць скарыстацца кансультацыяй псіхолага, зрабіць масаж у масажным крэсле пад рэлаксацыйную музыку. Таксама ў Рэсурсным Цэнтры ёсць сэнсарны пакой. Гэта адмыслова абсталяванае месца для рэлаксацыі і рэабілітацыі людзей. Стымулятары, размешчаныя ў сэнсарным пакоі, уздзейнічаюць на органы слыху і дотыку. Мяккія модулі, паветрана-бурбалачная панэль і трубкі, фібраоптычныя валокны, стол для малявання пяском паляпшаюць эмацыйны стан і змяншаюць пачуццё стомленасці.

Акрамя гэтага, супрацоўнікі цэнтра арганізоўваюць разнастайныя заняткі на развіццё логікі і памяці, дробнай маторыкі, адмысловыя майстар-класы.

Адна з мэтаў Рэсурснага Цэнтра – спрыяць паляпшэнню псіхаэмацыйнага стану не толькі ў пажылых людзей, але і тых, хто здзяйсняе догляд, дапамагаць ім спраўляцца са стрэсам і эмацыянальным выгараннем, атрымліваць прафесійную дапамогу і падтрымку.

У межах дзейнасці Рэсурснага Цэнтра сацыяльныя работнікі таксама здзяйсняюць сацыяльна-бытавыя кансультацыі і садзейнічаюць у адаптацыі жылых памяшканняў для людзей з цяжкімі захворваннямі.

Рэсурсны Цэнтр дзейнічае пры фінансавай падтрымцы "Карытас" Лінц, Renovabis, KZE (Katholische Zentralstelle für Entwicklungshilfe e.V.).

Сустрэчы ў Рэсурсным Цэнтры для сацыяльнай інтэграцыі пры "Карытас" Віцебск адбываюцца па панядзелках, аўторках і чацвярах **з 11 да 14 гадзінаў па адрасе: г. Віцебск, вул. Чкалава 52, корпус 1.**

Па пытаннях працы Рэсурснага Цэнтра можна звяртацца па тэлефонах:
**(+37529) 836-99-93;**
**(80212) 61-88-22.**

Сачыць за дзейнасцю Рэсурснага Цэнтра можна на старонках у сацыяльных сетках УКантакце, Facebook, Instagram

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Сафія Рагіня** *(Сарокі)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **вернікі з Валкалаты, Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Алена Лаўрыновіч** *(Мёры)*, **Уладзімір Баравік** *(Мёры)*, **Кацярына Баравік** *(Мёры)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Рамашка З.А.** *(Мінск)*, **Браніслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Тэрэза Вараноўіч** *(Докшыцы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Ніна Гайдзель** *(Яя)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Крысціна Манчынская** *(Дзеркаўшчына)*, **Ала Манчынская** *(Янушава)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Альдона Сіўко** *(Дзедзіна)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Марыя Лекарэвіч** *(Ярава)*, **Ядвіга Будзіч** *(Буяўшчына)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **рух "Маці ў малітве"** *(Відзы)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Валянціна Курто** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Марыя Грашчэнка** *(Малева)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Станіслава Рагожкіна** *(Пліса)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Іван Кулік** *(Мікелеўшчына)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Ірына Ядзевіч** *(Паставы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Ніна Маруніко** *(Новалукомль)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Іван Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Ванда Альсевіч** *(Мосар)*, **Марыя Ткачонак** *(Мосар)*, **Яніна Скаўронская** *(Луцк-Масарскі)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Арсеній Фёдараў** *(Глыбокае)*, **Вераніка Курыловіч** *(Глыбокае)*, **Сафія Юковіч** *(Сарокі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# Святар моцна крытыкуе людзей падчас казання. Як рэагаваць?

***"Пахвалёны Езус Хрыстус! Я жыву ва Усходняй Беларусі. Наш ксёндз паходзіць з Гродзеншчыны, ён часта крытыкуе наш горад, яго жыхароў, а таксама парафіян, часам жорстка. На яго радзіме ўсё лепш, чым тут. Вельмі гэта непрыемна, я размаўляла з ім аднойчы на гэтую тэму, але нічога не зменяецца. На душы вельмі цяжка і непрыемна, маю намер пакінуць парафію. Не ведаю, што рабіць. Прашу парады. Дзякуй вялікі".***

– Вялікі дзякуй за пытанне. Адразу трэба сказаць, што мы не ходзім у касцёл дзеля сімпатыі да пэўнага святара альбо дзеля сардэчнасці нашых сабратоў-парафіянаў. І калі часам добры святар ці добры хрысціянін з'яўляецца значнай дапамогай у развіцці духоўнага жыцця, праўда таксама і тое, што падчас смагі важнай з'яўляецца вада, а не прыгажосць шклянкі, з якой мы яе будзем піць.

Вельмі добра, што Вы паразмаўлялі са сваім святаром на гэтую тэму і прадставілі яму свой пункт гледжання, бо часам і нам, святарам, трэба ўбачыць "нябачнае". Дарэчы, асабістым прыкладам і малітвай кожны душпастыр павінен змяняць на хрысціянскі лад жыццё ў той парафіі, а таксама і мясцовасці, куды яго накіраваў біскуп. Магчыма (але Вы ў пытанні дакладна не апісваеце), ён і крытыкуе не да канца хрысціянскае жыццё жыхароў Вашага горада, заклікаючы да навяртання. А калі так, то гэта прамы абавязак святара. Ведаем, што Ян Хрысціцель, які навучаў у Юдэйскай пустыні, казаў: "Кайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае" (пар. Мц 3, 1-2).

Святы апостал Павел у "Лісце да Габрэяў" кажа: "Кожны першасвятар, якога выбіраюць з людзей, прызначаны для людзей у справах Божых, каб прыносіць дары і ахвяры за грахі. Ён можа спачуваць тым, хто не ведае і блукае, бо і сам мае ў сабе слабасць. Таму ён павінен як за народ, так і за сябе прыносіць ахвяры за грахі" (пар. Гбр 5, 1-3).

Гэта паказвае, што кожны святар з'яўляецца чалавекам са сваімі недасканаласцямі і грахамі, але гэта, вядома, не апраўдвае дрэнныя альбо некарэктныя паводзіны ці размовы святара. Святы Аўгусцін, біскуп Гіпоны, у адной са сваіх тэалагічных прац пісаў, што: "…сапраўднасць сакраманту не залежыць ад асабістай святасці распарадчыка [таго, хто ўдзяляе сакрамант]…" (пар. св. Аўгусцін, De Baptismo 112, 19).

Кожны хрысціянін, у тым ліку і святар, павінен удасканальвацца, імкнуцца да святасці жыцця. Некаторым, магчыма, гэта цяжка рабіць, і тут на дапамогу святару павінны прыходзіць вернікі. Кожны вернік мае абавязак маліцца за свайго душпастыра, маліцца аб яго святасці, аб яго дасканаласці, маліцца пра святыя і шматлікія пакліканні да святарскага і манаскага жыцця. І да гэтага ізноў жа нас заклікае Святое Пісанне. Апостал Павел піша: "Памятайце пра вашых настаўнікаў, якія абвяшчалі вам Божае слова, і, разважаючы пра канец іхняга жыцця, наследуйце іх веру" (пар. Гбр 13, 7).

Таму, на маю думку, пакідаць парафію – гэта не выйсце з сітуацыі. Найлепшае выйсце – гэта пачаць маліцца за святара, рабіць так, як гэтаму вучыць нас слова Божае.

*З павагай і малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***

# Ці можа святар прамаўляць ад імя Касцёла?

***"Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, на такое пытанне: ці можа паасобны святар або свецкі вернік прадстаўляць сабой Касцёл? Маё пытанне абгрунтавана перадусім тым, што з публічных выказванняў некаторых свецкіх людзей ці святароў (маю на ўвазе кс. Вячаслава Барка), вынікае, што яны прамаўляюць ад імя Касцёла. Але ці сапраўды выказванні простых вернікаў ці святароў маюць аж такі высокі ранг? Дзякуй за адказ."***

*Павел*

**На пытанне адказвае ксёндз-канонік Віктар Місевіч, канцлер Віцебскай дыяцэзіі.**

– Шаноўны Павел! Каталіцкі Касцёл, як вядома, мае іерархічную структуру. Мы ведаем, што Езус выбраў сабе дванаццаць апосталаў, каб падрыхтаваць іх да адказнага служэння. Евангелле таксама прыводзіць факт абрання іншых 72-х вучняў, якіх Езус паслаў да людзей з місіяй прапаведавання (пар. Лк 10,1). Сёння таксама ў Касцёле ёсць людзі, задачай якіх з'яўляецца кіраванне Касцёлам. Гэта біскупы. Ёсць прэзбітары, якія з'яўляюцца найбліжэйшымі супрацоўнікамі біскупаў. Ёсць дыяканы, ёсць вернікі і ёсць кансэкраваныя асобы, іншымі словамі, манахі і манахіні.

Касцёл – гэта сапраўды вялікая сям'я Божых дзяцей, дзе шмат розных служэнняў і пакліканняў. Праўдай будзе, калі мы скажам, што кожны з гэтых зазначаных вышэй прадстаўнікоў мае адказнасць перад Богам і мае сваё пакліканне да апостальства. Думаю, Вы знаёмыя з тым, што некаторыя людзі любяць казаць прыкладна такім чынам: "Ён жа ходзіць у Касцёл, чаму ён так гаворыць?" Або, напрыклад: "Ён католік, таму ён не можа так сябе паводзіць".

Нашае хрысціянскае веравызнанне накладае на нас пэўныя абавязкі. І грамадства таксама разумее, што чалавек, які называе сябе паслядоўнікам Хрыста, павінен вылучацца сваімі паводзінамі ў добры бок ад тых людзей, каторыя яшчэ не прынялі словаў Евангелля як свайго жыццёвага крэда. Людзі з па-за Касцёла заўсёды акрэсліваюць нас, вернікаў, як тых, хто прэзентуе сабой Касцёл. І ў гэтым ёсць вялікая праўда. Езус сказаў, што мы павінны быць святлом свету і соллю гэтай зямлі (пар. Мц 5, 13-14).

Аднак, калі мы кажам пра афіцыйнае прадстаўніцтва Каталіцкага Касцёла, то справы выглядаюць зусім інакш. І тэалагічна, і юрыдычна вернікі, кансэкраваныя асобы і прэзбітары не могуць прадстаўляць сабой усю супольнасць Касцёла. І адпаведна іх выказванні не могуць успрымацца як афіцыйнае касцельнае навучанне. Афіцыйнае касцельнае навучанне знаходзім толькі ў афіцыйных дакументах Касцёла, такіх як, напрыклад: Катэхізіс, Кодэкс кананічнага права, Дакументы ІІ Ватыканскага сабору і інш.

У Дэкрэце пра пастырскае служэнне біскупаў у Касцёле ІІ Ватыканскага сабору Christus Dominus чытаем: "Стан біскупаў, як пераемнасць Калегіі Апосталаў у навучанні і пастырскім кіраванні, больш за тое, як няспынны працяг апостальскай супольнасці ў часе, утварае разам са сваёй Галавой, Рымскім Пантыфікам, і толькі разам з ім, найвышэйшы суб'ект і паўнату ўлады над усім Касцёлам" (CD 4). Толькі біскупы з'яўляюцца найвышэйшым суб'ектам і валодаюць паўнатой улады ў Касцёле. Адпаведным чынам, толькі яны могуць аўтарытэтна выказвацца ад яго імя і ўспрымацца грамадствам, як яго прадстаўнікі.

Несумненна, гэта вельмі адказнае служэнне. Таму заахвочваю нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву ў інтэнцыі пастыраў Касцёла – біскупаў. Усе ж іншыя выказванні на прасторах інтэрнэту ці ў СМІ мы можам успрымаць толькі як асобнае меркаванне асобных людзей.

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

**Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"**

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

### Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз-пробашч Алег Півавар**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння і Днём святарскага пасвячэння!*

*Мы вельмі ўдзячныя Вам за службу ў нашай парафіі, за шчырае абвяшчэнне Божага слова! Вялікі дзякуй, што атуляеце нас сваёй малітвай, за Вашы слушныя парады і заўвагі, за цярплівасць!*

*Няхай здзяйсняюцца ўсе Вашы задумы і мары, няхай побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі! Просім у Бога для Вас добрага здароўя, натхнення, плённай працы на Божай ніве. Няхай Пан Бог блаславіць кожны дзень Вашага жыцця і дае сілы дзяліцца з людзьмі сваёй верай і любоўю!*

***З пашанай, вернікі касцёла святога Яна Хрысціцеля ў Валкалаце***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму былому пробашчу **ксяндзу Алегу Піваару,** які 6 лістапада адзначыў Дзень нараджэння, а 12 лістапада – Дзень святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Алег!*

*Жадаем Вам Божага блаславення, жыццёвай разважлівасці на кожны дзень, а на доўгія гады – моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства, добрых людзей побач, здзяйснення ўсіх мараў і задумак!*

*Прыміце шчырыя словы падзякі за Ваша вялікае добрае сэрца, за цярплівасць да нас, за глыбокую веру і любоў да людзей!*

*Мы кожны дзень молімся і памятаем пра Вас у сваіх малітвах!*

*Шчасці, Божа, бацькам за сыноў-святароў! Няхай добры Бог адорыць Вас моцным здароўем, патрэбнымі ласкамі, спакоем, шчасцем, верай і надзеяй!*

***З павагай, удзячнасцю і малітоўнай падтрымкай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дарагі **ксёндз-пробашч Алег Півавар**!*

*Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (6 лістапада) і гадавінай святарства(12 лістапада).*

*Гэтыя дзве падзеі для Вас знаходзяцца побач, мабыць, невыпадкова. Нараджаецца чалавек, і Бог дае яму лёс. У Вас ён дзеля служэння Пану Богу і людзям.*

*Жадаем на вашым шляху святарскім*
*Здароўя, і шчасця, і радасных дзён.*
*Людзей – самых добрых,*
*Падзей – самых яркіх.*
*Прыміце ад вернікаў нізкі паклон.*

*Хай мары Вашы ўсе збываюцца,*
*Хай планы ўсе здзяйсняюцца.*
*Хай благаслаўляе Бог служэння час.*
*Вы сталі нашаю апораю,*
*І мы заўжды з пакораю*
*Аддана, шчыра молімся за Вас.*

***З любоўю і павагай, вернікі капліцы св. Антонія Падуанскага вёскі Гарадзішча.***

### Паважаны ксёндз Віктар!



*Ад усёй душы дзякую Вам за душпастырскае служэнне, а таксама за рэдакцыйную працу дзеля распаўсюду Слова Божага і ўмацавання Каталіцкага Касцёла ў Беларусі!*

*Няхай Пан Бог у міласэрнай апецы Сваёй натхняе душу і саграває Вашае сэрца ўсеабдымнай любоўю!*

***З дабром, Глеб Гатоўка***

### Хвала Хрысту!



*Паважаны наш **ксёндз Сяргей Сурыновіч**!*

*З нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (11 лістапада) шчыра віншуем Вас з пажаданнямі ўсіх Божых ласкаў на кожны дзень святарскага жыцця! Жадаем Вам нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення, цярплівасці, шчодрага плёну на Божай ніве! Няхай міласэрны Бог бласлаўляе Вас на новыя справы і няспынна дапамагае ў служэнні Езусу, людзям і Касцёлу! Няхай Маці Божая і Дух Святы напаўняюць Ваша жыццё верай, надзеяй і любоўю!*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сына-святара.*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі (Браслаўскі р-н)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны наш пробашч **ксёндз Уладзіслаў Лазар**! Дзякуем Усемагутнаму Богу за дар Вашага жыцця і прысутнасць сярод нас! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды Вашага 55-годдзя!*

*Жадаем Вам Божага благаслаўлення на кожны дзень святарскага служэння! Каб здароўе было моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну ў працы – штодзённай!*

*Нам хочацца сардэчна падзякаваць Вам за ахвярную працу ў нашай парафіі, за малітвы ў нашых інтэнцыях і нашых просьбах, за змястоўныя казанні, за непаўторную прыгажосць вакол касцёла. Дзякуючы Вашым намаганням наш Божы храм становіцца яшчэ больш утульным.*

*Дзякуем Вашай маме за сына-святара і жадаем ёй моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, апекі Маці Божай!*

***З малітвай, павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святых Апосталаў Пятра і Паўла з вёскі Камень***

### Падзяка



*Напярэдадні 2 лістапада, калі адзначаецца Дзень усіх памерлых, у вёсцы Сакавічы на могілках сабраліся нашчадкі пахаваных тут родзічаў. Упершыню на нашых могілках **ксёндз Валерый Орсік** адправіў святую Імшу. Сваякі памерлых атрымалі магчымасць паспавядацца і прыняць Камунію. На гэты час, у гэтым месцы, дзе мы ўшаноўваем памяць пра сваіх блізкіх, усталёвалася незвычайная цішыня. Мы адчулі такі супакой! Нашыя сэрцы напоўніліся вялікай удзячнасцю ксяндзу Валерыю, які дапамог нам яшчэ раз задумацца над тым, як мы жывём, які след пакінем на зямлі, як важна маліцца за памерлых.*

*Шчыра жадаем Вам, паважаны ксёндз Валерый, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Панны Марыі! Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, адорыць Вас усімі патрэбнымі ласкамі!*

***З удзячнасцю, Сафія Юковіч, Тарэса Рабіза, Валянціна Хрысталовіч, Ганна Мартыноўская, Дана Ючковіч***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**

1. "Жывы ружанец"; 2. Жыцця; 3. Жніво, жніва, жніво; 4. Жупраны; 5. Жаль за грахі; 6. Жыццё вечнае; 7. Жалобы; 8. Жаўнеры; 9. Жонка; 10. Жасінта.

### Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Чэслаў**!*

*Сардэчна віншуем Вас з Днём народзінаў (13 лістапада)! Мы нізка кланяемся і дзякуем Вам за чалавечнасць, за адкрытасць і вялікую адданасць святарскай справе, за тое, што служыце Усемагутнаму Богу і народу Беларусі ўжо 32 гады!*

*Дзякуем Вам за ўзнёслыя казанні, поўныя любові, спачування і міласэрнасці. Дзякуем за ахвярнае служэнне ў канфесіянале, за заняткі з біблійнай групай, за працу з маладымі сем'ямі, за працу з групай Ал – анон.*

*Няхай Усемагутны Бог і Ваш Анёл-ахоўнік заўсёды берагуць Вас, падтрымліваюць ва ўсіх Вашых задумках і натхняюць на новыя стваральныя справы на карысць Пана Бога і людзей! Радасці і здароўя Вам, шмат сілы і моцы, шаноўны ксёндз Чэслаў!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах***

## Епископ Кирилл Климович отметил 70-летний юбилей



**5 ноября ординарию Епархии святого Иосифа в Иркутске епископу Кириллу Климовичу исполнилось 70 лет. А накануне — 4 ноября — Владыка Кирилл отмечал именины, сообщает портал *Ruthenia Catholica*.**

Будущий архиерей родился 5 ноября 1952 года в Казахстане. В детстве Кирилл Климович жил в СССР (в Белорусской ССР), а затем вместе с семьей переехал в Польскую Народную Республику.

В 1974 году он поступил в Высшую духовную семинарию "Hosianum" в польском городе Ольштын, которую окончил в 1980 году. Рукоположен во священники 8 июня 1980 года примасом Польши кардиналом Юзефом Глемпом. Служил викарием в городах Видмины, Пасленк и Клевки под Ольштыном.

С июля 1990 года отец Кирилл начал служение в Беларуси, где был настоятелем прихода и деканом в городе Глубокое.

13 октября 1999 года Папой Иоанном Павлом II был назначен вспомогательным епископом Минско-Могилевской архиепархии и 4 декабря 1999 года хиротонисан во епископа в минском кафедральном соборе Пресвятой Девы Марии кардиналом Казимиром Свёнтеком как титулярный епископ Арбанский. С 1999 по 2003 гг. – генеральный викарий Минско-Могилевской архиепархии и настоятель Кафедрального собора в Минске.

17 апреля 2003 года Папой Иоанном Павлом II назначен ординарием Римско-Католической епархии святого Иосифа в Иркутске. 15 июня 2003 года в иркутском кафедральном соборе Непорочного Сердца Божией Матери состоялось каноническое и литургическое вступление архипастыря в должность.

С 2005 по 2011 гг. епископ Кирилл Климович занимал должность заместителя председателя Конференции католических епископов России.

Он – руководитель Катехитической комиссии и Комиссии по межхристианскому и межрелигиозному диалогу, а также диалогу с неверующими.

*sib-catholic.ru*

# Слова Божае – спадарожнік на час Адвэнту

**Неўзабаве пачынаецца Адвэнт – час радаснага чакання моманту, калі свету аб'явіцца Хрыстус, наш Збаўца. Гэты літургічны перыяд – выдатная нагода, каб рыхтавацца да прыйсця Уцелаўлёнага Слова Айца праз малітоўнае слуханне паслання надзеі, якое ў Божым слове праз літургію скіроўвае да сваіх дзяцей Касцёл.**

Імкнучыся далей паглыбляць наша знаёмства са Святым Пісаннем, звернемся да той захапляльнай праўды, пра якую нагадвае Папа Бэнэдыкт XVI у адгартацыі "Verbum Domini", цытуючы св. Амброзія: "Кожны хрысціянін-вернік у пэўным сэнсе зачынае і нараджае ў сабе Божае слова" (п. 28). "Марыя – Маці Хрыста паводле цела, але паводле веры Хрыстус – плод усіх. Таму тое, што здарылася з Марыяй, штодзённа можа нанова адбывацца з кожным з нас, калі мы слухаем Божае слова і цэлебруем сакраманты", – працягвае Папа. На перыяд Адвэнту вельмі добрай "пазітыўнай" аскезай (г.зн. скіраванай не на адмову ад чагосьці, а на выпрацоўванне новых уменняў. Успомнім, што слова "аскеза" азначае "практыкаванне") будзе прызначэнне часу на тое, каб пабыць у Божай прысутнасці з тымі прыгожымі прароцкімі тэкстамі, якія мы знаходзім у літургіі. Такім чынам, сапраўды дазволім, каб святкаванне Хрыстовага Нараджэння азначала і Яго нараджэнне ў нашых сэрцах як плод веры ў слова збаўлення.

**Даслоўны і духоўны сэнс Пісанняў**

Хрысціянская традыцыя вучыць нас, як успрымаць Святыя Пісанні, каб яны не заставаліся далёкімі і незразумелымі пасланнямі, а станавіліся для нас сапраўднымі словамі жыцця. Біблійны тэкст, як любы іншы, мае даслоўны ці, інакш кажучы, гістарычны сэнс: ён альбо расказвае пра нейкія падзеі, альбо дае акрэсленыя прадпісанні адносна тых ці іншых абставінаў, альбо пераказвае зварот пэўнага чалавека да Бога і г. д. На гэтым узроўні тое, што мы чытаем, можа здавацца нам чымсьці чужым, далёкім ад нашай рэчаіснасці. Часам нам не вельмі зразумелыя рэаліі, сувязі, вобразы, якія выкарыстоўвалі біблійныя аўтары тысячагоддзі таму, і спецыялісты (іх называюць экзэгетамі ці проста біблеістамі) стараюцца растлумачыць і наблізіць да нас гістарычны кантэкст адпаведнай эпохі. Аднак наша галоўная мэта, калі мы чытаем Святое Пісанне, – не ўвайсці ва ўсе гістарычныя "тонкасці", але знайсці карысць для душы. Акрамя даслоўнага сэнсу, біблійны тэкст мае і сэнс духоўны, г. зн. такі, які датычыць нашых адносінаў з Богам, канчатковага прызначэння чалавечага існавання ў святле Божай праўды. Св. Грыгорый з Ніса, адзін з айцоў Касцёла, тлумачыць, што хтосьці можа сказаць: "Якая мне справа да халдэяў, якім быў Абрагам, ці іншых старажытных людзей, чыё жыццё цалкам адрознівалася ад майго?" Аднак, кажа ён, нам патрэбна больш тонкае разуменне і праніклівасць, каб убачыць, ад якіх халдэяў нам трэба аддзяліцца, ці з якога бабілёнскага палону вызваліцца… Інакш кажучы, у біблійным аповедзе мы знаходзім тыя вобразы і працэсы, якія апісваюць духоўны шлях чалавека ў любую эпоху, і ў кожным эпізодзе гісторыі збаўлення можам знайсці штосьці, што кажа і пра наша падарожжа веры. Айцы Касцёла шырока звярталіся да алегорыі, каб бачыць у біблійных сімвалах духоўную рэчаіснасць, якая датычыць любой эпохі. Напрыклад, лесвіца, каторую Якуб бачыць у сне (Быц 28, 10-22), становіцца вобразам узыходжання да нябеснай рэчаіснасці праз акрэсленыя ступені. Любое апісанне бітваў у Святым Пісанні – сімвалам той духоўнай барацьбы, якую кожнаму верніку даводзіцца весці супраць зла, спакусаў, уласнага эга…

Акрамя алегарычнага, іншы від духоўнага значэння Пісанняў – гэта маральны: часам ён відавочны, бо, напрыклад, Пан Езус у Евангеллі наўпрост вучыць сваіх паслядоўнікаў акрэсленым паводзінам і, што важнейшае, унутранаму стаўленню, а часам чытачу трэба зрабіць высілкі, каб самастойна з аповедаў зрабіць для сябе высновы, што датычаць сённяшніх жыццёвых абставінаў. Нарэшце, яшчэ адзін від духоўнага сэнсу – гэта эсхаталагічны, г. зн. той, які раскрывае будучую рэчаіснасць Божага Валадарства, вечнага жыцця. Яго важнасць не ў тым, каб проста апісваць, як усё будзе выглядаць у вечнасці, але каб дапамагаць нам мець правільнае стаўленне ў гэтым свеце і адпаведна "карэктаваць" наш шлях. Гэта відавочна ў тым, з якой мэтай Пан Езус расказвае прыпавесці пра Нябеснае Валадарства: не проста дзеля таго, каб намаляваць на ўяўленні слухачоў прыгожыя карцінкі, але каб заклікаць да навяртання і жыцця паводле Ягонага Евангелля.



**Lectio divina: метад сустрэчы з Божым словам**

Касцельная традыцыя сярод шматлікіх багаццяў дорыць нам спосаб "засвойваць" збаўчае пасланне Святога Пісання – "рабіць сваімі" вялікія Божыя абяцанні. Сутнасць метаду lectio divina (што даслоўна перакладаецца як "боскае чытанне") заключаецца ў тым, каб у духу веры пабыць у Божай прысутнасці з біблійным урыўкам, дазваляючы Духу Святому адкрыць нам, як Божае слова закранае нашае жыццё сёння. Для гэтага ў першую чаргу трэба выдзеліць акрэслены перыяд часу ў цішыні, мінімалізуючы магчымыя перашкоды для засяроджання ўвагі. Пасля таго, як мы выбралі і прачыталі ўрывак (напрыклад, як ужо сказана вышэй, літургічнае чытанне дня), пачынаем з таго, што на працягу хвіліны-дзвюх супакойваемся і звяртаемся да Пана з просьбай аб ласцы святла Духа, каб гэта сустрэча з Божым словам прынесла плён. Далей бяром па чарзе асобныя вершы, фразы ці нават словы, паволі чытаем іх і перачытваем шмат разоў (сярэднявечныя манахі параўноўвалі гэты працэс з пераможваннем ежы: каб добра засвоіць хлеб нябесны, патрэбны падобны працэс – і тут неабходна "адвучвацца" ад сучаснага звычайнага спосабу апрацоўваць інфармацыю, дзе вымагаецца хуткасць і "аператыўнасць").

Важна ўспрымаць тое, што чытаем, як запрашэнне самога Пана да нас: Бог сапраўды прамаўляе да сваіх дзяцей праз сваё слова. Пастунова ад гэтага першага этапу lectio (чытання) пераходзім да meditatio (разважання), г. зн. прымянення да свайго жыцця. Напрыклад, у прарока Ісаі чытаем: "Прыйдзіце, і ўзыдзем на гару Пана" (Іс 2, 3). Хоць, напэўна, не вельмі верагодна, што камусьці з нас, жывучы ў Беларусі, даводзіцца часта ўзыходзіць на гару, аднак тут мы звяртаемся да духоўнага сэнсу гэтага вобраза. Гара Пана – месца сустрэчы з Ім у святыні, месца Ягонай намацальнай прысутнасці… Узыходжанне – гэта намаганне, але тая перспектыва, якая адкрываецца наверсе, вартая старання. Мая малітва – гэта такое намаганне. Якія іншыя высілкі, акрамя малітвы, я павінен прыкласці ў гэты момант майго жыцця, каб прадстаць перад Богам? Дзе і як для мяне гучыць заклік "Прыйдзіце"?.. Канешне, такое разважанне будзе вельмі асабістым.

Наступны, трэці, этап – гэта oratio (малітва ў сэнсе непасрэднага звароту да Бога): што слова, над якім я разважаў, пабуджае мяне сказаць Богу, аб чым папрасіць, за што падзякаваць? Магчыма, разважаючы над высілкамі ўзыходжання, я ўсведамляю, што мне не хапае сіл – для вытрываласці мне патрэбная Божая ласка, пра якую прашу. Магчыма, у глыбіні майго сэрца нараджаецца падзяка Пану за запрашэнне прыйсці да Яго…

Нарэшце, апошні этап у гэтым метадзе – contemplatio (сузіранне): маецца на ўвазе момант цішыні, каб проста пабыць з той новай перспектывай, якая адкрываецца для мяне праз Божае слова, з далікатным заклікам Пана, які заўсёды гучыць у душы; з тым абяцаннем, якое, калі прынятае, мае здольнасць перамяняць маё існаванне ў глыбіні.

Калі для кагосьці практыкаванне lectio divina будзе першым такім досведам, канешне, не варта чакаць ідэальнага "праходжання" кожнага з этапаў. Не трэба таксама спяшацца абавязкова паспець усё. Самае важнае – захаваць вернасць і пастаянства. Няхай нашыя намаганні дадуць нам магчымасць адчуць, што Езус сапраўды нараджаецца зноў у гэтым свеце праз нас!

*Айцец Віктар Жук SJ,*
*Віцебск*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

**Інтэнцыя св. Імшы**

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Чаму ў Касцёле афіцыйна змянілі тэкст малітвы “Ойча наш”?

**“Я чуў, што ў Італіі ў Касцёле афіцыйна змянілі тэкст малітвы “Ойча наш”. Адкажыце, калі ласка, чаму так адбылося? Дзякуй!”**

*Павел*

— Шаноўны Павел! Тэма змяненняў у малітве “Ойча наш” час ад часу ўзнікае ў розных месцах свету, дзе жывуць хрысціяне. Часцей за ўсё – гэта шостая просьба, тая, якая кажа пра спакусу. Так, з першай нядзелі Адвэнту 2017 г. года ўвайшла ў Літургію новая рэдакцыя адной з просьбаў малітвы “Ойча наш” на французскай мове. Замест “Не ўводзь нас у спакусу” падчас літургіі гучаць словы “Не дай нам упасці ў спакусу”. Старшыня камісіі па літургіі Канферэнцыі Біскупаў Францыі біскуп Гі дэ Керымэль патлумачыў такое рашэнне жаданнем пазбегнуць двухсэнсоўнасці цяперашняга тэксту, які можа наводзіць на думку, што “Бог спакушае людзей”. Аднак ці сапраўды належыць так хутка змяняць тэкст Бібліі ў Літургіі (бо мадыфікацыі здараюцца часта, што не сведчыць пра разбежнасць Літургіі з духам Бібліі, а наадварот, паказвае каталіцкае разуменне тых ці іншых біблейскіх вершаў)?

Як у Евангеллі паводле св. Мацвея 6,13, так і ў Евангеллі паводле св. Лукі 11,4 літаральна сказана “не ўводзь нас у спакусу/выпрабаванне” (μὴ εἰsenέγκῃς ἡμᾶς εἰς πειρασμόν – *mē eisenenkēs hymas eis peirasmon*). Слова *peirasmos* можа азначаць як “выпрабаванне”, так і “спакуса”. Не належыць “пужацца” гэтага слова, бо ў Бібліі і Евангеллях такіх “складаных” месцаў хапае. Вось, напрыклад: “Калі хто прыходзіць да Мяне і не зненавідзіць бацьку свайго і маці, жонку і дзяцей, братоў і сясцёр, ды нават жыцця свайго, не можа быць Маім вучнем” (Лк 14,26) або “Я прыйшоў не мір прынесці, але меч” (Мц 10,34). Многія славутыя пераклады, пачынаючы з самой лаціны, не баяліся даслоўна прытрымлівацца грэцкага тэксту: *ne nos inducas in temptationem* (Вульгата), *ne nous conduis pas dans la tentation* (Traduction Œcuménique de la Bible), *führe uns nicht in Versuchung* (Einheitsübersetzung). Езус, вымаўляючы ў малітве “Ойча наш” “не ўводзь у спакусу”, ведаў, што Бог шмат разоў выпрабоўваў людзей (напрыклад, “Бог выпрабоўваў Абрагама” (Быц 22,1). Езус сам быў “выштурханы” Духам на спакушэнне ў пустыню (пар. Мц 4,1).

### Праблема ў дадзеным выпадку таксама часткова ў нашай мове.

Бо калі мы кажам “спакушаць”, мы амаль заўсёды маем на ўвазе падбухторванне да зла. Наадварот, у габрэйскай і грэчаскай Бібліях, дзе мы знаходзім матыў “спакусы”, выкарыстоўваюцца словы, якія азначаюць не толькі *stricte* – “спакуса”, але і “выпрабаванне”. Бог на старонках Бібліі выпрабоўваў выбраны народ, што засталося пазначаным нават у словах, прамоўленых пасля дэкалогу: “Бог прыйшоў, каб выпрабаваць цябе і прымусіць цябе баяцца сябе, каб ты не грашыў” (Зых 20,20). Аднак не толькі Бог можа выпрабоўваць людзей у Бібліі, але і наадварот. Як гэта было падчас блукання па пустыні: “І назваў [Майсей] гэтае месца Маса і Мерыва, таму што тут ізраільцяне бунтавалі і выпрабоўвалі Пана, кажучы: “Сапраўды Пан сярод нас ці не?” (Зых 17,7).

Аднак у біблейскай “спакусе” ёсць адно істотнае адрозненне ад спакусы ў звычайным разуменні. Калі Бог выпрабоўвае людзей, гэта добра. Але калі людзі так робяць з Богам, – гэта ўжо зло. Чаму? Таму што галоўная мэта “спакусы” – рост (духоўны, перш за ўсё), пераход на больш высокі ўзровень. Мы гэта ведаем па экзаменах, па спартыўных мерапрыемствах і конкурсах песень. Па той жа прычыне нельга выпрабоўваць Бога. Бо Бог ужо дасканалы і святы. Варта таксама адзначыць, што выразы “спакушаць/выпрабоўваць” (*peiradzo*) не заўсёды з’яўляюцца адмоўнымі ў Новым Запавеце. Св. Павел піша: “Выпрабуй [літ. “спакушаць/выпрабоўваць”] сябе, ці знаходзішся ты ў веры?” (2 Кар 13,5). Св. Пётр тлумачыць: “Любыя! Не здзіўляйцеся гэтай спакусе, якая пасярод вас, дзеля вашага выпрабавання, але радуйцеся, калі вы ўдзельнічаеце ў цярпеннях Хрыста, каб вы маглі ўзрадавацца і ўзвесяліцца, калі аб’явіцца Яго слава” (1 П 4,12). Нават сам Дух Святы (які натхняе прарокаў і апосталаў) хваліць за тое, што выпрабоўваюцца іншыя: “Ведаю ўчынкі твае: працу тваю і стойкасць тваю, і тое, што ты не можаш цярпець злых, і што ты выпрабоўваеш тых, хто называе сябе апосталамі, а не з’яўляюцца імі, і што вы палічылі іх хлусамі” (Ап 2,2). Ёсць, канешне, у Бібліі і негатыўны падыход да рэчаіснасці спакусы. “Хто спакушаецца, няхай не кажа, што Бог яго спакушае. Бо Бог не спакушаецца на зло і не спакушае нікога” (Як 1,13). Атрымліваецца, св. Якуб выкарыстоўвае слова *peiradzo* ў адмоўным сэнсе – “спакушаць”, а Павел, Ян і Пётр (які ўжывае назоўнік *peirasmos*) трактуюць яго пазітыўна.

Варта дадаць, што некаторыя біблеісты кажуць пра выкарыстаную грэцкую форму як адпаведнік арамейскай т. зв. каўзатыўнай формы, што азначала б “учыні, каб мы не паддаліся спакусе”.

### Праблема ў тым, што ў нас няма арамейскага тэксту.

Евангелле напісана на грэцкай мове, і ва ўсёй старазапаветнай грэцкай традыцыі выраз “Не ўвядзі нас у спакусу” ўяўляе значна меншую праблему, чым выраз “Бог нікога не спакушае” (як гэта ў Якуба). Мы маем насамрэч тры розныя варыянты разумення гэтага складанага выразу ў Новым Запавеце, калі гаворка ідзе пра Бога і спакусу:

1) “Не ўвядзі нас у спакусу” (Мц 6,13);

2) “Бог верны і не дазволіць вам спакушацца больш, чым вы можаце вытрымаць” (1 Кар 10,13);

3) “Хто спакушаецца, няхай не кажа: “Бог мяне спакушае”. Бо Бог не спакушаецца на зло і не спакушае нікога” (Як 1,13).

З грэцкага пункту гледжання, св. Якуб супярэчыць Старому Запавету, дзе неаднаразова напісана, што Бог спакушае (напрыклад, Быц 22,1; Зых 15,25; 16,4).

Гэтую просьбу з “Ойча наш” можна прачытаць у ключы малітвы пакорнага чалавека. Гэтая просьба з’яўляецца крыкам да Бога: “Вызвалі мяне ад зла, якое ўжо ёсць, і не ўводзь мяне ў сітуацыю выпрабавання, якога яшчэ няма”. Або “Хопіць выпрабоўваць мяне зноў, але выратуй мяне ад удараў, якія ўжо падаюць”. Або “не выпрабоўвай мяне, бо я слабы, каб змагацца. Хутчэй Ты сам змагайся і збаў мяне ад злога.” Не можна не заначыць, што гэта датычыць малітвы. Таму не будзе праблемай сказаць: “Не ўвядзі нас у спакусу”, як і “Божа, не пакідай мяне”, хоць мы ведаем, што Бог ніколі нас не пакідае. Езус таксама ўсклікнуў: “Божа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў?” (Мц 27,46). Псальміст без праблем усклікнуў: “Прачніся! Чаму ты спіш, Пане? Прачніся! Не адкідай назаўсёды!” (Пс 44,24). Хоць у іншым месцы гэтай жа Кнігі сказана: “Вось, той, хто пільнуе Ізраэль, не дрэмле і не спіць”. (Пс 121,4). Заўважым таксама, што непасрэдна пасля “не ўводзь нас у спакусу” ідзе просьба “але збаў нас ад злога”. Гэта падобна да воклічу прарока Осіі: “Прыйдзіце, вернемся да Пана! Ён параніў нас і вылечыць нас, пабіў нас і перавяжа рану” (Ос 6,1).

Бэнэдыкт XVI у кнізе “Езус з Назарэта” (у пункце “Ад хросту ў Іардане да Перамянення”) таксама падкрэслівае, што гэта просьба з “Ойча наш” кідаецца ў вочы многім. Папа кажа, што спакуса паходзіць ад д’ябла, але месіянская місія Езуса – пераможаць вялікія спакусы, якія адвялі людзей ад Бога і працягваюць адводзіць іх. Езус павінен вытрымаць гэтыя спакусы да самай смерці на Крыжы, і толькі тады Ён адкрые нам шлях збаўлення. Таму Ён павінен не толькі пасля смерці, але разам з ёй і на працягу ўсяго жыцця як бы “спускацца ў пекла”, у сферу нашых спакусаў і падзенняў, каб узяць нас за руку і весці з іх. “Пасланне да Габрэяў” надае гэтаму аспекту асаблівае значэнне і лічыць яго неад’емнай часткай шляху Езуса: “Дзеля таго, што Ён сам выпакутаваў, будучы ў выпрабаванні, можа дапамагчы спакушаным” (2,18). “Бо мы маем не такога першасвятара, які не можа спачуваць нашым слабасцям, але ўсяляк выпрабаванага [як мы], акрамя граху” (4,15).

Погляд на кнігу Ёва, у якой таямніца Хрыста ўжо шмат у чым раскрытая, можа даць нам дадатковыя падказкі. Сатана высмейвае чалавека, каб высмеяць Бога. Каб дасягнуць сталасці, каб павярхоўную пабожнасць замяніла глыбокая еднасць з Богам, чалавек павінен прайсці праз выпрабаванні.

**Падобна да таго, як вінаградны сок павінен прайсці працэс закісання, каб стаць выдатным віном, чалавек мае патрэбу ў ачышчэнні і трансфармацыі.**

Гэта можа быць для яго небяспечна, ён можа нават пацярпець няўдачу, але гэта тыя дарогі, якімі трэба ісці, каб прыйсці да сябе і да Бога. Любоў – гэта заўсёды працэс ачышчэння і адрачэння, пакутлівых пераўтварэнняў, якія вядуць да сталасці.

Св. Кіпрыян кажа, што могуць быць дзве розныя прычыны, па якіх Бог дае абмежаваную ўладу Злому. Гэта можа быць для нас свайго роду пакаяннем, каб утаймаваць пыху, каб мы зноў адчулі, наколькі крохкая наша вера, надзея і любоў, і не думалі, што сваёй веліччу абавязаны самі сабе. Другі тып спакусы, якую можа спасылаць Бог, – гэта спакуса *ad gloriam* (дзеля славы Божай). Такі від спакусы пакліканы запэўніць чалавека ў адзінай і выключнай абароне – гэта сам Бог, Якому адна- му належыць слава.

Таму, вымаўляючы гэтую шостую просьбу “Ойча наш”, мы кажам Богу: “Я ведаю, што мне патрэбныя выпрабаванні, каб ачысціць сваю глыбокую істоту. Калі гэтыя перажыванні ў Тваіх руках, калі, як гэта было ў выпадку з Ёвам, Ты пакідаеш крыху шляху злу, тады, калі ласка, памятай пра мае абмежаваныя здольнасці. Не разлічвай на мяне занадта. Не пашырай межы маіх спакусаў і будзь побач з Тваёй ахоўнай рукой, калі мая мера пачне перапаўняцца”.

**Літаратура**

*Йозеф Ратцингер (Папа Бенедикт XVI), Иисус из Назарета. – Ч. 1. – Москва. – 2009.*

*A. Paciorek, Ewangelia wg św. Mateusza 1-13. – Częstochowa. – 2021.*

***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі*

# В Барселоне “достроили” храм с помощью светящихся дронов

**Голландский художественный дуэт DRIFT создал “воздушную архитектуру” с помощью специальных дронов, сообщает *timeout.es*.**

Художники Ральф Наута и Лоннеке Гордейн с помощью светящихся дронов создали световую иллюзию, позволяющую представить, как будет выглядеть Саграда Фамилия в завершенном виде.

Церковь Святого Семейства (Sagrada Família) в Барселоне начали строить в 1882 году. Храм строят по проекту Антонио Гауди. Необычный внешний вид сделал его одной из главных достопримечательностей города. Мастер отдал своему творению сорок три года, но при его жизни была реализована только треть от задуманного. Гауди был глубоко набожным человеком, и Саграда Фамилия должна была стать, по его замыслу, современным прочтением Нового Завета. На фасадах здания подробно изображены главные этапы земной жизни Христа: рождение, смерть и воскрешение.



По решению инициаторов финансирование работ должно выполняться исключительно за счёт пожертвований прихожан, что является одной из причин столь длительного строительства.

Также окончание работ задерживает сложность изготовления каменных блоков. Согласно компьютерной модели, каждый из них требует индивидуальной обработки и подгонки. Кроме того, большая часть чертежей храма была утрачена во время гражданской войны в 1930-х годах. Однако строительство продолжается до сих пор. Предварительная дата окончания работ – 2026 год. Это столетие со дня смерти Антонио Гауди.

*gorthodox.com*




**ДАРАГІ СЯБРА! СЁННЯ "ПАЗНАВАЙКА" ПАДРЫХТАВАЛА ДЛЯ ЦЯБЕ ЗАДАННІ НА ТЭМУ "БОГ КЛАПОЦІЦЦА ПРА ЧАЛАВЕКА".**

**1 ЗАДАННЕ**

Выканаўшы першае заданне, ты даведаешся, якія словы табе хоча сказаць "Пазнавайка"!

У наступным выразе ўсе словы напісаны наадварот. Прачытай выраз ззаду наперад правільна і запішы, што атрымалася…

**ГОБ ЫЧЯЗДЕЛГЯН ІН АН ОТШ, АННЕМЗЯН АЦІЦОПАЛК АРП САН!**

Адказ: ______________________________

______________________________

______________________________

**2 ЗАДАННЕ**

Словы святога Пятра зможаш прачытаць, выканаўшы наступнае заданне. (1П 5,7)

Запішы па парадку, пачынаючы ад самага маленькага сэрца і заканчваючы самым вялікім.




Адказ: ______________________________

______________________________

______________________________

**3 ЗАДАННЕ**

Добра падумай над наступным заданнем! Прыгадай сабе, праз якія рэчы і ўчынкі ты бачыш, як Бог клапоціцца пра цябе? Можа, ёсць пэўныя людзі, праз якіх ты бачыш клопат Нябеснага Айца?

Намалюй або напішы некалькі сітуацый, якія табе прыгадаліся.







**4 ЗАДАННЕ**

Прачытай невялічкае павучальнае апавяданне ад "Пазнавайкі". Паразважай над ім з кім-небудзь з дарослых.

Аднойчы ўвечары адна жанчына вязала камізэльку для сваёй маленькай дачкі Кацярыны. Неўзабаве прыйшоў з працы яе муж. Сеў побач з ёй адпачыць. Цяжка ўздыхнуўшы, яна сказала яму: "Што будзе з намі зімой? Мы і ўлетку ледзьве зводзім канцы з канцамі. Дзе мы возьмем грошы на цёплае адзенне і іншыя патрэбы?" Тады яе муж спытаў: "Скажы, што ты вяжаш?" Яна адказала: "Камізэльку для нашай дачкі на зіму." Муж працягваў пытацца: "А Кацярына ведае пра гэта?" Яна адказала: "Не, вядома, не ведае!" Тады муж сказаў: "Можа быць, усё ж такі лепш сказаць дачцэ пра гэта, каб яна не перажывала аб тым, што яна будзе насіць зімой?" Жонка ўсміхнулася: "Няўжо ты на самай справе мяркуеш, што яна думае пра гэта? Яна ж зусім яшчэ маленькая і заўсёды ўпэўнена, што аб усіх яе патрэбах паклапоцяцца бацькі! Ты чуеш, як яна бесклапотна смяецца, гуляючы з дзецьмі?" Тады муж сказаў ёй: "А няўжо Езус не казаў аб тым, каб мы былі, як дзеці - таксама даваючы ўсе нашыя патрэбы Нябеснаму Айцу? Бо Ён усё ведае і абавязкова паклапоціцца пра нас, калі ў гэтым узнікне неабходнасць!"



**5 ЗАДАННЕ**

Злучы кропкі па парадку і размалюй.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# У Мёрах пройдзе фестываль каляднай песні “Зорка Бэтлеема”

**Парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах запрашае да ўдзелу ў Фестывалі каляднай песні “Зорка Бэтлеема”, які адбудзецца 4 студзеня 2023 года.**

Конкурс праводзіцца ў двух узроставых катэгорыях: дзеці (да 12 гадоў) і моладзь (13-17 гадоў).

**Намінацыі**: сола, дуэт, гурт, інструментальная творчасць.

Да ўдзелу запрашаюцца творчыя калектывы ад парафій. Працягласць выступлення не павінна перавышаць 20 хвілін.

Удзельнікам конкурсу неабходна **даслаць заяўку да 15 снежня 2022 года на электронны адрас** kascelmery@gmail.com

Фестываль пройдзе ў раённым Цэнтры культуры і народнай творчасці (г. Мёры, пл. Леніна, 14). Пачатак – 10.00.




Удзельнікі павінны прыбыць не пазней, чым за 30 хвілін да пачатку фестывалю.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: **+37529 216-02-86 – кс. Андрэй.**

# Каляндар на снежань

**27** лістапада распачынаецца перыяд Адвэнту.

**3** снежня – успамін св. Францішка Ксавэрыя, святара

**6** снежня – успамін святога Мікалая.

**7** снежня – успамін св. Амброзія, біскупа і доктара Касцёла.

**8** снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

**13** снежня – успамін св. Люцыі, панны і мучаніцы.

**14** снежня – успамін св. Яна ад Крыжа, святара і доктара Касцёла.

**25** снежня – урачыстасць Нараджэння Пана.

**26** снежня – свята св. Стэфана, першамучаніка.

**27** снежня – свята св. Яна, апостала і евангеліста.

**28** снежня – свята святых Немаўлят, мучанікаў.

**30** снежня - свята Святой Сям’і: Езуса, Марыі і Юзафа.

# Музычная сустрэча “Грай Пану” пройдзе ў Навагрудку

**З 9 па 11 снежня ў Навагрудку адбудзецца музычная сустрэча “Грай Пану”. Яна пройдзе ў рэкалекцыйным доме каля касцёла св. Арханёла Міхала.**

Імпрэзу будзе ладзіць гурт “Рыбы”. Удзельнікі, між іншым, змогуць атрымаць адказы на наступныя пытанні:

*– Чаму варта ведаць увесь шлях спеву: ад ідэі ў галаве творцы да моманту гучання ў вушах слухача?*

*– Што трэба мець і ўмець, каб людзі ва ўсім свеце маглі пачуць твае музыку і спевы?*

*– Як знайсці натхненне, каб напісаць песню?*

*– Як увогуле пісаць песні? Гэта прывілея абраных ці проста навык, як, напрыклад, кіраваць аўтамабілем?*

*– Ці трэба рабіць больш, чым проста спяваць пад гітару ў сваім пакоі?*

*– Ці трэба Пану Богу нашы спевы?*

*– Якая розніца паміж спевам касцельным і свецкім?*

*– Што трэба тэхнічна, каб запісаць і выпусціць твор?*

*– Колькі трэба грошай, каб цябе пачулі?*

*– Чаму менавіта музыкам сёння неабходна больш адказна паставіцца да гэтай важнай справы?*

На сустрэчу запрашаюцца як тыя, хто проста хацеў бы служыць праз музыку, так і тыя, хто ўжо доўга служыць падобным чынам і не збіраецца спыняцца. Запрашаюцца таксама асобы, што перажываюць пэўны крызіс у творчасці.

**Прыезд і размяшчэнне** – пажадана да вячэры ў пятніцу 9 снежня (вячэра – а 19.00). Пачатак сустрэчы – каля 20.00.

Праграма вельмі насычаная, таму арганізатары заахвочваюць удзельнікаў паспець, каб распачаць яе разам.

За час з вечара пятніцы да ранку нядзелі плануецца зрабіць “з нуля” сапраўдны спеў, які ў нядзелю змесцяць у інтэрнэце, каб яго маглі пачуць знаёмыя ўдзельнікаў і ўсе ахвотныя.

Таксама ў праграме будуць святая Імша, малітвы спевам, дыскусіі і шматлікія новыя адкрыцці.

Кошт за пражыванне – 60 руб (уключае харчаванне, цёплыя пакоі з ложкамі). Можна скласці дадатковае ахвяраванне звыш кошту.

**З сабой мець:** асабістыя рэчы; прыгожую вопратку; сшытак і ручку ці алоўак. Музычныя інструменты браць з сабой не трэба.

*Рэгістрацыю можна прайсці, адсканаваўшы QR-код*



***Grodnensis.by***

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***



З 4 па 7 лістапада ў парафіі св. Міхала Арханёла ў другі раз прайшоў малітоўны кангрэс у абарону жыцця і сям’і. Мэтай яго правядзення было прынесці пакаянне за грахі беларускага народа супраць жыцця і сям’і, бо “без пакаяння, няма збаўлення”.

**Віктар Ведзень,** *фота*

# II малітоўны кангрэс у абарону жыцця і сям’і

Арганізатарамі сустрэчы выступілі Дабрачынны фонд “Адкрытыя сэрцы”, Экспертная рада па справах абароны жыцця і сям’і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і парафія св. Міхала Арханёла.

5 лістапада стаў самым важным днём кангрэса. 110 чалавек, у тым ліку 40 дзяцей, прайшлі ў пілігрымцы пакаяння з Навагрудка ва Усялюб, а ўвечары пасля святой Імшы з удзелам трох біскупаў быў прачытаны ўрачысты Акт пакаяння беларускага народа за грахі супраць жыцця і сям’і.

Некаторыя з удзельнікаў кангрэса выказваюць думкі, што “Бог чакае ад нас пакаяння”, “хто ведае, можа быць, у тым ліку дзякуючы ўрачыстаму пакаянню ў Навагрудку Бог нас беражэ?”

Адным з ключавых гасцей кангрэса стаў біскуп Атаназій Шнайдэр з Казахстана, які сярод каталіцкіх іерархаў вызначаецца традыцыйнай кансерватыўнасцю. У сваіх выступленнях ён рабіў акцэнт на вернасці католікаў вучэнню Касцёла. 6 лістапада таксама адбылася прэзентацыя яго кнігі “Christus vincit”, прысвечанай шляхам выхаду з крызісу, у якім сёння знаходзіцца Касцёл.

У апошні дзень кангрэса прайшла сустрэча шматдзетных сем’яў. Тэмы выступленняў датычыліся выхавання дзяцей, айцоўства, пераадолення духоўных пагроз для сям’і. Варта асабліва адзначыць выступ кс. Мікалая Ціхановіча, які распавёў пра трансгендэрнасць з пункту гледжання экзарцыста.

Удзельнікі адзначылі высокі ўзровень мерапрыемства, прычым не толькі яго малітоўнай часткі, але і навуковых выступленняў. Многія з іх ужо чакаюць наступнага малітоўнага кангрэса, які, хутчэй за ўсё, пройдзе ў лістападзе 2023 года.

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб’яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5959

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб’ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 24.11.2022 г. у 14.10

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь